паўстаньня 1794. Нічога дзіўнага тут няма. Пераважная частка баявых дзеяньняў была на тэрыторыі сучаснай Беларусі, а таксама на яе этнічных тэрыторыях. Называць палякам аднаго з галоўных ідэолягаў паўстаньня, Кастуся Каліноўскага проста недарэчна. У сваёй “Мужыцкай праўдзе” ён яскрава выступае супраць польскага панскага прыгнёту і палітычнай залежнасьці ад Польшчы. Падаю толькі адно яскравае выслоўе: “такой бесталковай галаве, як Варшава, ня можна даверыць долю Беларусі”. Па некаторых зьвестках (здаецца, іх першым раскапаў у архіве Алесь Чобат), Мураўёў-вешальнік прапаноўваў Каліноўскаму жыцьцё. За гэта ён мусіў назвацца палякам. У адрозьненьне ад Тадэвуша Касьцюшкі (які таксама пачуваўся ліцьвінам і дэкляраваў гэта), у Польшчы слушна ня лічаць Каліноўскага сваім нацыянальным героем. І гэта наўпрост адпрэчвае "польскасьць" Каліноўскага.

Стэрэатып трэці. Канфесійны. Ёсьць сьледствам папярэдняга. У паўстаньні брала ўдзел насельніцтва вылучна каталіцкага вызнаньня. Абсалютна прапагандысцкі штамп, які не адпавядае гістарычнай рэчаіснасьці і фактам. Праваслаўных удзельнікаў паўстаньня, асабліва на Магілёўшчыне, было даволі шмат. Прыкладам, з 56 студэнтаў і навучэнцаў, якіх цягам студзеня-сакавіка 1863 г. выключылі з Горы-Горацкіх земляробчага інстытуту і землямернай вучэльні за ўдзел у паўстаньні (гэтая моладзь ваявала пераважна ў атрадзе Людвіка Зьвяждоўскага), 27 чалавек былі праваслаўнага вызнаньня. Зразумела, што працэнт каталікоў – удзельнікаў паўстаньня – быў большым (хоць, больш-менш прыблізных лічбаў назваць пакуль ня можа ніхто). Але тут патрэбна ўлічваць, прынамсі, два фактары. Па-першае % каталікоў-насельнікаў беларускіх земляў тады быў большым, чым ёсьць сёньня ў Беларусі. Па-другое, з удзельнікаў паўстаньня было шмат людзей, ня толькі рымска-каталіцкага вызнаньня, але і тых, хто паходзіў з грэцка-каталіцкіх сем’яў. Прыкладам, постаць Францішка Багушэвіча, бацька якога быў уніяцкім сьвятаром.

Паўстаньне ня мела антыправаслаўнага характару, як мяркуюць многія “дасьледнікі”. Перш усяго “антыправаслаўе паўстанцаў” атаясамляюць з асобай Кастуся Каліноўскага. Асабліва хваравіта гэты стэрэатып перажываецца сёньняшнімі беларусамі зь Беласточчыны, дзе мякка кажучы, ня вельмі шануецца постаць іх земляка Каліноўскага. На тое ёсьць свае прычыны.

Праваслаўе ХХ-га стагоддзя на Беласточчыне дазволіла тамтэйшым беларусам захаваць нацыянальную тоеснасьць. Але гэта ўжо тэма асобнай гутаркі.



*Мапа паўстаньня на тэрыторыі Літвы й Беларусі*

Каліноўскі сапраўды быў зацятым апалягетам адраджэньня ўніяцтва. “...Ні адзін ужэ, можа, забыўся, што бацька яго быў яшчэ справядлівай уніяцкай веры і ніколі ўжэ не спомніць на тое, што перавярнулі яго на сызму (схізму – аўт.), на праваслаўе, што ён сягодня, як той сабака, жыве без веры...” (Мужыцкая праўда № 6). І далей, там жа, зьвяртаючыся да Бога: “выжані маскаля з нашага краю, дай нам праўдзівую вольнасьць і веру нашых дзядоў і

прадзедаў, а касьцёлы, што маскаль, нячыста яго сіла, параскідаў альбо перарабіў на стайні і цэркві, зноў заясьнеюць тваёю хвалой...”. Каб зразумець Каліноўскага, трэба зазірнуць у кантэкст гістарычнай эпохі. Пасьля кароткай канфесійнай адлігі, якую Беларусь зазнала за часам расейскага імператара Паўла І (1796-1801), і пэўнага лібералізму Аляксандра І, цараваньне Мікалая І (1825-1855) было часам жорсцкага рэлігійнага ціску. У 1839 г. адбылося скасаваньне ўніі, адначасна ў храмах былі забароненыя казані па-беларуску. Ліквідацыя грэцка-каталіцкай канфесіі суправаджалася нішчаньнем яе шматлікіх культурных каштоўнасьцяў, спальваньнем літургічнай і тэалягічнай літаратуры. Расейскія праваслаўныя цэрквы сталі асяродкамі палітычнай прапаганды імперскай палітыкі Масквы.

Кастусь гадаваўся ў гэты час, юнак меў дапытлівы розум, пазьней атрымаў добрую адукацыю. У час вучобы ў Пецярбургу і Маскве Каліноўскі разам з сваім старэйшым братам Віктарам – таленавітым архівістам, меў мажлівасьць вывучаць унікальныя дакумантальныя матар’ялы, якія паказвалі сутнасьць гістарычных дачыненьняў Расеі і Рэчы Паспалітай. Менавіта адсюль зыходзіў сьветагляд правадыра паўстанцаў.




Асобная тэма – гэта расправы паўстанцаў над праваслаўнымі сьвятарамі. Акрамя аднаго-двух прозьвішчаў з такімі выпадкамі, якія апісваюцца шавіністычнымі расейскімі аўтарамі, дакладных зьвестак пра гэта няма. З іншага боку дакладна ведама, што было пакарана сьмерцю 8 ксяндзоў (кожны другі проста за чытаньне паўстанцкага маніфэсту!), гэтыя прозьвішчы ведамыя дакладна. 36 каталіцкіх сьвятароў былі высланы на катаржныя працы, 25 – на пасяленьне ў Сібір з пазбаўленьнем усіх асабістых правоў.

Стэрэатып чацьвёрты. Клясавы. Сама складаным пытаньнем у паўстаньні 1863 году падаюцца стасункі паміж двума лягерамі вызвольнага руху. Схема гэтых дачыненьняў у сёньняшняй беларускай гістарыяграфіі даволі павярхоўная. Між тым, тэма вымагае грунтоўных дасьледзінаў. Яшчэ да пачатку вызвольнага чыну склаліся дзьве плыні – “белыя” і “чырвоныя”. Блёк “белых” складалі буйная шляхта і новая буржуазія. Іх стратэгічнай мэтай было аднаўленьне Рэчы Паспалітай у межах 1772 году. Прымітыўна,

аднак, лічыць, што лягер "белых" – гэта блёк вылучна прапольскіх настрояў. Тут патрэбна дэталёва вывучаць паставы і дзеі кожнага асобнага чалавека. Гэтая плынь прагнула аднавіць канфедэратыўную дзяржаву палякаў, ліцьвінаў, украінцаў і жмудзінаў, прычым хацела ўжыцьцявіць гэта канстытуцыйным шляхам. "Белыя" мелі моцную надзею на падтрым заходнеэўрапейскіх дзяржаў (гэты наіўны спадзеў у ХХ-ым стагоддзі стане славянскай ілюзійнай традыцыяй). Зважаючы на пэўныя ліберальныя саступкі рэжыму Аляксандра ІІ, які ў 1855 г. зьмяніў цемрашальскі мікалаеўскі, значная частка "белых" хацела шляхам ціску і ініцыятыў прысьпешыць рэформы. Прыкладам у 1862 г. маршалак Гарадзенскай шляхты, граф Віктар Старжынскі (выдатны, але, на жаль, малаведамы сёньня мысьляр) перадаў Аляксандру ІІ праект нацыянальна-культурнай аўтаноміі літоўскіх (беларускіх) і жмудзінскіх (летувіскіх) земляў у складзе Расейскай імперыі. Ёсьць усе падставы меркаваць, што "белыя" абралі тактыку пакрокавага эвалюцыйнага дасягненьня незалежнасьці. Варта пачытаць мэмуары тагачасных лідараў "белых", прыкладам Якуба Гейштара.

Плынь "чырвоных" была досыць стракатай у сацыяльна-палітычным "пляне". Сюды ўходзілі дробная і сярэдняя шляхта, студэнты, інтэлігенцыя, незаможныя гараджане, сяляне. Бальшыня зь іх была апантаная ідэямі Францускай буржуазнай рэвалюцыі і прагнула радыкальных дзеяў. Апроч Каліноўскага, дзейснымі запраўднымі лідарамі гэтай плыні былі Уладзіслаў Малахоўскі і Цітус Далеўскі. Вызвольнае рэвалюцыйнае паўстаньне яны бачылі як адзіны шлях да незалежнасьці. Можна пагадзіцца зь ведамым дасьледнікам Вячаславам Шалькевічам: "Паўстаньне К. Каліноўскі разглядаў не як самамэту, а толькі як непазьбежны сродак дасягненьня высакароднай мэты - свабоды і незалежнасьці сваёй радзімы, паколькі ў самадзяржаўнай Расеі адсутнічалі якія-небудзь легальныя шляхі змаганьня за ўладу, а значыць, і магчымасьці рэалізацыі справядлівай і гуманнай сацыяльна-палітычнай праграмы" (В. Ф. Шалькевіч. Гісторыя палітычнай і прававой думкі Беларусі).

З працаў савецкіх гісторыкаў вынікае, што Каліноўскі люта ненавідзеў шляхту. Гэта зноў жа павярхоўны погляд. Па-першае, Каліноўскі сам паходзіў з шляхецкай сям'і і такой прыроднай нянавісьці не магло быць у яго "крыві". Па-другое, ёсьць яскравыя сьведчаньні сучасьнікаў. Як піша Апалёнія Серакоўская (жонка Зыгмунта Серакоўскага, сястра братоў Далеўскіх): "Ведалі мы Каліноўскага шмат гадоў, быў ён сябрам люду - можа, нават халопаманам, але ніколі ня быў ворагам якой-небудзь часткі свайго народу" (Кастусь Каліноўскі. За нашую вольнасць. Творы, дакументы). Падаецца, што Каліноўскі рэзка выслаўляўся (а такіх выказваньняў багата) толькі пра частку ліцьвінскай шляхты, а менавіта тую, якая празьмерна спольшчылася і не жадала вызнаваць ідэю сацыяльна-нацыянальна-канфесійнай вольнасьці сялян. Каліноўскі быў апантаны ідэяй вызваленьня сялянства, ён шчыра верыў у жыватворныя сілы народу. Тут варта пагадзіцца з польскім гісторыкам Баляславам Ліманоўскім: "Быў ён шчырым народнікам. Вызнаваў тое перакананьне, што толькі сялянскае паўстаньне верне свабоду літоўскім народам. Народ для яго ня быў адным толькі сродкам, але найперш быў мэтаю. Вызваленьне сялян, ператварэньне іх у грамадзян - вось галоўная мэта" (там жа). Па-сутнасьці, Каліноўскі ўжо тады сфармаваў ідэю грамадзянскай супольнасьці, так папулярную ў панятках сучаснай дэмакратыі.

Праўдзівай беларускай гістарыяграфіі не патрэбная ідэялізацыя "чырвоных" ці "белых". Ня варта перабольшваць супярэчнасьці паміж "белымі" і "чырвонымі". Трэба іх дэталёва аналізаваць. Называць "белых" здраднікамі, а "чырвоных" - рэвалюцыянэрамі-тэрарыстамі – прымітыўны палітыканскі погляд. Бясспрэчна

толькі тое, што абодва лягеры былі патрыятычнымі, мелі пэўную розьніцу ў сьветаглядзе, але праглі такой вольнасьці, як пісаў Каліноўскі, "якой не было нашым дзедам да бацькам". Патрэба сёньняшняга асэнсаваньня паўстаньня 1863 году – глянуць на яго беларускімі вачамі, але праз сьветагляд эўрапейца другой паловы XIX ст.



## За нашу і вашу свабоду! Паўстанне 1863-1864 гг. на Ганцаўшчыне: рэйд Р.Рагінскага

У лютым на Беларусі адзначаюцца ўгодкі пачатку паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Мінула ўжо 150 гадоў ад гэтай слаўнай даты, калі нашыя продкі ўзняліся на барацьбу супраць расійскага панавання на нашай зямлі. Аднак на афіцыйным ўзроўні гэтая падзея ніяк не ўзгадваецца. Гэта і не дзіўна ва ўмовах, калі гістарычная навука ізноў трапляе пад ідэалагічны ціск. Сёння ізноў, як і ў савецкія часы, існуюць забароненыя тэмы ў беларускай гісторыі. Да такіх тэмаў належаць і падзеі паўстанняў супраць расійскага царызму і бальшавізму: паўстання Т.Касцюшкі, К.Каліноўскага, Слуцкае паўстанне 1920 г.

Узгадаем жа некаторыя дзеі гэтага паўстання, якое закранула і Ганцавіцкі раён.

1 лютага 1863 года Літоўскі правінцыяльны камітэт выдаў да жыхароў Беларусі маніфест аб паўстанні. Адразу з сучаснай тэрыторыі Польшчы ў Беларусь пачынаюць пераходзіць першыя паўстанцкія атрады. З іх можна адзначыць атрад пад кіраўніцтвам камісара Падляшскага ваяводства Рамана Рагінскага, які дайшоў і да Ганцаўшчыны. Атрад складаўся са 150 чалавек і быў добра ўзброены, была нават магчымасць узбройваць мясцовых паўстанцаў.

Ужо 11 лютага атрад прыняў бой з царскімі карнікамі графа Носціца і падпалкоўніка Вімберга пад в.Каралеўскі Мост. Сілы былі няроўныя, частка паўстанцаў вымушаная была адступіць на тэрыторыю Польшчы, а з астатнімі Рагінскі схаваўся ў лесе. Праз дзень паўстанцы Рагінскага аб'ядналіся з мясцовым атрадам С.Сангіна і Б.Рыльскага і авалодалі мястэчкам Шарашова (сёння Пружанскі раён), дзе яны вельмі прыхільна былі сустрэтыя мясцовымі жыхарамі. Тут Р.Рагінскі набыў адзенне і абутак для сваіх паўстанцаў, а таксама 6 пудоў пораху, заплаціўшы па 40 рублёў за пуд.

3 лютага 1863 г. на досвітку паўстанцы без усялякага супраціўлення захапілі павятовы горад Пружаны. Тут у горадзе яны знайшлі каля 200 карабінаў, у казначэйстве забралі 10 тысяч рублёў, з астрогу выпусцілі 9 арыштантаў. З Пружан атрад Рагінскага рушыў праз Кобрынскі павет на Піншчыну, а потым – у Мазырскі павет Менскай губерні, маючы намер узняць на паўстанне мясцовых сялян.

17 лютага (па іншых звестках 25-26 лютага) каля вёскі Боркі (сёння Ганцавіцкі раён) паўстанцы Рагінскага сутыкнуліся з атрадам царскіх карнікаў пад камандаваннем Альбертава, які складаўся з трох рот пяхоты і сотні казакоў. Са звыклай адвагай Рагінскі пайшоў на няроўны бой і быў разбіты. Разбітых паўстанцаў царскія войскі праследавалі і знішчалі.

Ганцаўскія старажылы распавядалі, што аднаго з паўстанцаў, удзельніка бою пад Боркамі, казакі праследавалі аж да в.Дзяніскавічы. Ва ўрочышчы Конік яго дагналі і забілі.

Сам Рагінскі з ад'ютантам Юрашкевічам і з некалькімі паўстанцамі выратаваўся і накіраваўся ў балоты Піншчыны. З сакавіка 1863 года Рагінскага злавілі каля Турава ў маёнтку шляхціца Млынскага. Ён быў арыштаваны і дастаўлены ў Берасце, а затым у Варшаўскую вязніцу.

Смяротны прыгавор змагару за волю Бацькаўшчыны ад 23 жніўня 1863 г. быў

заменены на 20 гадоў катаргі, якую адбываў ён у Пермскай губерні.

У 1892 годзе Раман Рагінскі вярнуўся на Радзіму, і пакінуўшы успаміны аб падзеях 1863-1864 гг. памёр 15 лютага 1915 году.

Паўстанне 1863-1864 гг. расійскія захопнікі душылі вельмі жорстка. Ужывалі розныя метады – катавалі і забівалі не толькі паўстанцаў, але і мірных жыхароў, якіх падазравалі ў сувязі з паўстанцамі. Палілі цэлыя вёскі разам з жыхарамі, высялялі ў Сібір і глуміліся над насельніцтвам так, што апусцелі цэлыя рэгіёны. Міжволі і параўноўваеш такую "братнюю любоў" з пазнейшымі зверствамі гітлераўскіх фашыстаў на нашай зямлі.



А расійскую палітыку ў дачыненні да нашага краю акрэсліў галоўны душыцель паўстання Віленскі генерал-губернатар М.М.Мураўёў: "Забудьте наивные мечтания, занимавшие вас доселе, господа, и помните, что если вы не станете здесь по своим мыслям и чувствам русскими, то вы будете здесь иностранцами и должны тогда покинуть этот край". Не дарэмна гэтаму кату беларускі народ даў мянушку "Вешальнік".

**Артыкул:** *Павел Дайлід*



# Паўстанне 1863-1864 гг. Кастусь Каліноўскі

Гісторыі паўстання 1863-1864 гг. прысвечаная багатая і супярэчлівая ў канцэптуальных адносінах літаратура, прадстаўленая пераважна польскімі і расейскімі аўтарамі. Не страцілі свайго значэння да нашых дзён, як важныя крыніцы па гэтай праблеме, працы ўдзельнікаў і сучаснікаў паўстання, апублікаваныя ў апошняй трэці 19 – пачатку 20 ст. Іх аўтары карысталіся не толькі ўласнымі ўспамінамі, але і ўнікальнымі дакументамі, многія з якіх да нас не дайшлі.

Пачатак станаўлення беларускай гістарыяграфіі аб паўстанні і К.Каліноўскім адносіцца да 20-х гадоў. У папулярнай літаратуры ў той час Каліноўскі характарызаваўся як нацыянальны герой, першы беларускі рэвалюцыянер і кіраўнік сялянскага антыпамешчыцкага паўстання. Грунтоўны навуковы аналіз падзеяў паўстання і поглядаў К.Каліноўскага ў беларускай гістарыяграфіі ўпершыню дадзены ў артыкулах і манаграфіі Усевалада Ігнатоўскага. Ен характарызаваў паўстанне як буржуазна-дэмакратычнае, а Каліноўскага – як беларускага рэвалюцыянера-дэмакрата, ідэолага левых “чырвоных”, які па пэўных пытаннях быў вымушаны ісці на кампраміс з “белымі”, г.зн шляхецка-кансерватыўнай плынню сярод паўстанцаў. Даследчык паказаў,

што сялянства ў масе за паўстанцамі не пайшло і часта, асабліва ў Віцебскай і Магілёўскай губернях, ставілася да іх варожа.

У той жа час беларускі савецкі гісторык Самуіл Агурскі ў ацэнках паўстання фактычна далучыўся да поглядаў расейскіх манархічных аўтараў. Ён заяўляў, што паўстанне 1863 г. было арганізаванае польскімі памешчыкамі і каталіцкім духавенствам і праходзіла пад польскімі шавіністычнымі лозунгамі, называў Каліноўскага "міфічным героем", "польскім шавіністам". У 30-я гады ў савецкай Беларусі К. Каліноўскі ацэньваўся як "ідэолаг беларускай і польскай шляхты", г.зн. як рэакцыйны дзеяч.

У пасляваенны перыяд значны ўклад у распрацоўку гісторыі паўстання і навуковай біяграфіі К.Каліноўскага ўнеслі беларускія гісторыкі Уладзімір Перцаў, Анатоль Смірноў, Іван Лушчыцкі, Генадзь Кісялеў, Сусанна Самбук. Для працаў 50-х гадоў характэрныя наступныя высновы і ацэнкі: К.Каліноўскі – правадыр сялянскага паўстання, стваральнік вольнага беларускага друку, буйнейшы прадстаўнік передавой грамадскай думкі Беларусі 19 ст., якая развівалася пад магутным уплывам рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў; антыпрыгонніцкі рух сялянаў у Беларусі і Літве ў пачатку 1863 г. перарос ва ўзброенае паўстанне супраць памешчыкаў; у такой якасці яно было па сутнасці варожым польскаму шляхецкаму нацыянальна-вызваленчаму руху; Каліноўскі звязваў з сялянскай рэвалюцыяй знішчэнне не толькі саслоўнай, але і маёмаснай няроўнасці; у яго поглядах сялянскі дэмакратызм спалучаўся з утапічным сацыялізмам; у тлумачэнні з'яваў грамадскага жыцця ён прытрымліваўся ідэалістычных поглядаў; пры падрыхтоўцы паўстання і ў кіраўніцтве ім Каліноўскі займаў цалкам самастойную пазіцыю, не прызнаваў кіраўніцтва Варшаўскага камітэта і яго праграму, заклікаў у "Мужыцкай праўдзе" да знішчэння памешчыцкага землеўладання. Разам з тым адмаўлялася прызнаная ў першыя пасляваенныя гады наяўнасць у праграме К.Каліноўскага лозунга барацьбы за дзяржаўную самастойнасць Літвы і Беларусі, а сам гэты лозунг абвяшчаўся рэакцыйным. Сцвярджалася, што Каліноўскаму яго прыпісалі "ідэолагі самадзяржаўя і польскія нацыяналісты".



Да 100-годдзя паўстання калектывам расейскіх, польскіх, літоўскіх і беларускіх даследчыкаў быў падрыхтаваны і выдадзены шматтомны збор дакументаў і матэрыялаў. Дзве кнігі з гэтай серыі прысвечаныя падзеям у Літве і Беларусі. Увядзенне ў навуковы ўжытак вялікага масіву дакументаў і матэрыялаў суправаджалася публікацыяй шэрагу даследаванняў, садзейнічала пераасэнсаванню і істотнаму ўдакладненню некаторых раней зробленых высноваў. У навуковай літаратуры замацаваліся высновы пра тое, што паўстанне

1863 г. па складу ўдзельнікаў было пераважна шляхецкім, а па зместу праграмы – буржуазна-дэмакратычным, што рэвалюцыйныя дэмакраты з прычыны сваей слабасці не змаглі павесці за сабою сялянскія масы і вымушаныя былі падпарадкоўвацца шляхецкім рэвалюцыянерам. А.П.Смірноў прызнаў і станоўча ацаніў пастаноўку К.Каліноўскім пытання пра ўтварэнне самастойнай Літоўска-Беларускай рэспублікі. Іншыя палажэнні гістарыяграфіі 50-х г. захаваліся. У 2-м томе "Гісторыі Беларускай ССР" (Мінск, 1972) пазіцыі беларускіх рэвалюцыйных дэмакратаў па нацыянальным пытанні напярэдадні і ў час паўстання, як і раней, замоўчваліся.

Разам з тым у літаратуры 60-х гадоў выразна акрэсліліся погляды, якія фактычна азначаюць адмаўленне існавання ў паўстанні рэвалюцыйна-дэмакратычнай плыні на чале з К.Каліноўскім і выстаўлення ім патрабавання дзяржаўнай самастойнасці Літвы-Беларусі.



М.Міско заяўляў, што К.Каліноўскі і ягоны літоўскі паплечнік Антанас Мацкевіч (Мацкявічус) разглядалі Літву і Беларусь як частку Польшчы і цалкам падзялялі праграму польскага паўстанцкага ўрада, якая прадугледжвала ўключэнне беларуска-літоўскіх зямель у склад Польскай дзяржавы і захаванне памешчыцкага землеўладання. Больш таго, гэты аўтар, як і С.Агурскі, сцвярджаў, што прасякнутае польскім нацыяналізмам "Пісьмо Яські-гаспадара з-пад Вільні да мужыкоў зямлі польскай" выйшла з-пад пяра К.Каліноўскага. Пры гэтым М.Міско цалкам праігнараваў вядомыя факты, якія сведчаць пра востраканфліктныя ўзаемаадносіны Каліноўскага і Віленскага паўстанцкага цэнтра ў цэлым з варшаўскім Цэнтральным нацыянальным камітэтам. Дыскусія па гэтых пытаннях працягваецца.

У польскай і расейскай (у тым ліку савецкай) гістарыяграфіі паўстанне 1863-1864 гг. у Польшчы, Літве і Беларусі традыцыйна вызначаецца як польскае. Тым самым ігнаруюцца істотныя яго асаблівасці ў беларуска-літоўскім рэгіёне і найперш тое, што напярэдадні і ў ходзе паўстання тут упершыню дастаткова выразна праявілася плынь беларускага нацыянальна-вызваленчага руху на чале з К.Каліноўскім. Таму ў шэрагу публікацыяў беларускіх гісторыкаў і ў дадзенай працы яно ў дачыненні да тэрыторыі Літвы-Беларусі не называецца польскім.

***Рэвалюцыйныя дэмакраты і шляхецкія рэвалюцыянеры.***

У канцы 50-х – пачатку 60-х г. 19 ст. адбыліся якасныя змены ў складзе ўдзельнікаў вызваленчага руху ў Расеі: дваранскія рэвалюцыянеры саступілі месца г.зв. "разначынцам" – выхадцам з дэмакратычных пластоў насельніцтва, выразнікам інтарэсаў працоўных масаў, прадстаўленых у той час найперш сялянствам. Ідэолагамі руху сталі выдатныя расейскія мысліцелі і публіцысты Аляксандр Герцэн, Мікалай Чарнышэўскі, Міхаіл Бакунін, Мікалай Агароў, Мікалай

Дабралюбаў. Пад іх уплывам была створаная рэвалюцыйная арганізацыя "Зямля і воля" з цэнтрамі ў Пецярбургу і Лондане. Яна рыхтавала ўсерасійскае сялянскае паўстанне з мэтай устанаўлення народаўладдзя, перадачы без выкупу ўсёй зямлі сялянам, пабудовы сацыялістычнага ладу на аснове рэфармаванай сялянскай абшчыны і ўраўняльнага землекарыстання. У праграме расейскіх рэвалюцыйных дэмакратаў прадугледжвалася таксама прадастаўленне кожнаму народу, у тым ліку беларусам, права на самавызначэнне свайго лёсу. Надзеі на ажыццяўленне гэтай праграмы ўзмацняліся небывалым уздымам антыпрыгонніцкага сялянскага руху і ўзнікненнем рэвалюцыйнай сітуацыі ў краіне напярэдадні і ў час рэформы 1861 г.

У заходніх – польскіх і беларуска-літоўскіх – губернях рэвалюцыйная сітуацыя абвастралася не толькі аграрна-сялянскім, але і нацыянальным пытаннем, найперш – уздымам польскага нацыянальна-вызваленчага руху, мэтай якога з'яўлялася аднаўленне незалежнай польскай дзяржавы ў межах Рэчы Паспалітай 1772 г. Па пытанні аб шляхах дасягнення гэтай мэты ўдзельнікі руху падзяляліся на дзве асноўныя плыні – "чырвоных" і "белых". Першыя прадстаўлялі дэмакратычныя пласты насельніцтва – шматлікую беззямельную і малазямельную шляхту, рамеснікаў, сялянаў; другія – сярэдніх і буйных землеўласнікаў і буйную буржуазію. "Чырвоныя" зыходзілі з прызнаннянеабходнасці агульнанацыянальнага ўзброенага паўстання супраць царызму. "Белыя" разлічвалі на дасягненне сваёй мэты шляхам маніфестацыяў і перагавораў з урадам пры дыпламатычнай падтрымцы заходніх дзяржаў.

Не было адзінства і сярод "чырвоных". Правую, памяркоўную іх частку складалі шляхецкія рэвалюцыянеры – польскія нацыяналісты, для якіх галоўным было пытанне аб аднаўленні польскай рэспублікі з уключэннем у яе склад земляў Беларусі, Літвы і Правабярэжнай Украіны. Прапагандай гэтай ідэі яны імкнуліся прыцягнуць да паўстання і памешчыкаў і сялянаў, прычым першым абяцалі захаваць іх маёнткі, а другім – адразу без выкупу і адбывання "часоваабавязных адносінаў" перадаць у поўную ўласнасць зямельныя надзелы, атрыманыя па рэформе 1861 г. Немалаважным для памешчыкаў было і абяцанне аплаціць за кошт дзяржавы землі, выдзеленыя сялянам. Акрамя таго, прадугледжвалася роўнасць грамадзянскіх правоў сялянаў і шляхты, замена падушнага падатку падымным і 15-гадовай рэкрутчыны трохгадовай вайсковай службай у сваім краі, аднаўленне уніяцкай царквы. Такую праграму распрацаваў Цэнтральны нацыянальны камітэт (ЦНК), утвораны летам 1862 г. у Варшаве. Складаўся ён у асноўным з памяркоўных "чырвоных".

На перагаворах прадстаўнікоў ЦНК з выдаўцамі "Колокола" (Герцэн, Агароў, Бакунін) у Лондане ў верасні 1862 г. апошнія папярэдзілі польскіх рэвалюцыянераў, што іх праграма не знойдзе падтрымкі ў Расіі, і прапанавалі прыняць лозунгі расійскай рэвалюцыйнай дэмакратыі ("зямля – сялянам, воля – правінцыям"), г.зн. Літве, Беларусі і Украіне. Палякі абяцалі ўлічыць прапановы. У сувязі з гэтым у пісьме А.Герцэна "Русским офицерам в Польше" (кастрычнік 1862 г.) падкрэслівалася: "Зямля сялянам, самастойнасць абласцям – на гэтай падставе, і толькі на ёй можа ўстанавіцца дзейсны саюз ваш з польскімі братамі... Скажам разам з палякамі, быць Літве, Беларусі і Украіне з кім яны быць хочуць, ці ні з кім, толькі волю б іх уведаць – не падробленую, а сапраўдную".

Фактычна абяцанні, дадзеныя польскімі рэвалюцыянерамі выдаўцам "Колокола" не былі выкананыя. У "Маніфесце" і двух аграрных дэкрэтах, выдадзеных ЦНК 22 (10) студзеня 1863 г. у сувязі з абвяшчэннем паўстання, выкладалася ахарактарызаваная вышэй праграма. Новым у ёй было толькі абяцанне надзяліць 3 моргамі (каля 2 дзесяцін) зямлі беззямельных сялянаў, якія са зброяй у

руках падтрымаюць паўстанне. Адначасова ЦНК аб’явіў сябе Часовым нацыянальным урадам на ўсёй тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай.

У Беларусі і Літве падрыхтоўка паўстання пачалася ўвосень 1861 г., калі ў Вільні ўтварыўся “чырвоны” Камітэт руху на чале з капітанам Генеральнага штаба Людвікам Звяждоўскім. З лета 1862 г. гэты камітэт стаў называцца Літоўскім правінцыйным камітэтам (ЛПК). Змену назвы можна растлумачыць тым, што варшаўскі ЦНК к таму часу падпарадкаваў сабе віленскі цэнтр, прымусіў яго прызнаць сябе “правінцыйным”. Старшынею ЛПК заставаўся Звяждоўскі. У гэтай сувязі шматзначным уяўляецца паведамленне Васіля Ратча пра Літоўскі камітэт: ”Звяждоўскі пачаў “бялець” <...> Пастаянным яго праціўнікам быў Канстанцін Каліноўскі <...> які быў чысцейшым прадуктам камуністычнай літаратуры <...> з усімі федэратыўнымі мроямі (“бреднями”) “Колокола”. Ён разумеў <...> што “такой бесталковай мазгаўні”, як Варшава, нельга давяраць будучы лес Літвы”.

Кастусь Каліноўскі на той час вызначыўся як лідэр радыкальнай, рэвалюцыйна-дэмакратычнай плыні сярод “чырвоных” Літвы-Беларусі. Летам 1862 г. ён стаў сябрам, а ў кастрычніку быў абраны старшынёю ЛПК. Звяждоўскі неўзабаве выбыў з яго складу. У канцы 1862 – пачатку 1863 г. сябрамі ЛПК з’яўляліся інжынер-паручнік Ян Козел-Паклеўскі, урач Баляслаў Длускі, фатограф Ахіл Банольдзі, студэнт Эдмунд Вярыга, выпускнік Пецярбургскага універсітэту Зыгмунт Чаховіч.

Кастусь Каліноўскі нарадзіўся 21 студзеня (2 лютага) 1838 г. у Мастаўлянах Гарадзенскага пав. Бацька яго, Сымон быў беззямельным шляхцічам, уладальнікам невялікай ткацкай мануфактуры. З 1849 г. шматдзетная сям’я Каліноўскіх жыла ў фальварку Якушоўка (220 дзес. зямлі) паблізу мястэчка Свіслач Ваўкавыскага пав. (фальварак быў куплены за сродкі другой жонкі С.Каліноўскага, мачахі Кастуся). У 1852 г. Кастусь скончыў прагімназію ў Свіслачы. У 1856 – 1860 г. вучыўся на юрыдычным факультэце Пецярбургскага універсітэту, удзельнічаў у дзейнасці падпольных гурткоў польска-беларуска-літоўскай моладзі – навучэнцаў цывільных і вайсковых навучальных установаў Пецярбурга.



Атрымаўшы званне кандыдата права, у сакавіку 1861 г. вярнуўся на радзіму. Той жа вясной пачаў ствараць на Гарадзеншчыне рэвалюцыйную арганізацыю, у якую ўвайшлі Валеры Урублеўскі, Фелікс Ражанскі, Эразм

Заблоцкі, Ільдэфонс Мілевіч, Станіслаў Сангін ды інш.

Погляды левай, рэвалюцыйна-дэмакратычнай плыні "чырвоных" даволі поўна адлюстраваліся ў газеце "Мужыцкая праўда", якая выдавалася К.Каліноўскім, В.Урублеўскім, Ф.Ражанскім з лета 1862 г. у якасці неафіцыйнага органа ЛПК. Друкавалася яна на беларускай мове лацінскім шрыфтам у форме адозваў, прысвечаных набалелым для сялянаў пытанням. Асвятляліся яны гранічна сцісла, лагічна, паслядоўна, іншы раз наўмысна па-сялянску грубавата. Для газеты характэрны агітацыйны стыль, разлічаны на асяроддзе малапісьменных і непісьменных сялянаў. Выходзіла яна ад імя "Яські – гаспадара з-пад Вільні". Да канца 1862 г. убачылі свет і былі шырока распаўсюджаныя 6 нумароў. Сёмы, апошні нумар выйшаў у пачатку лета 1863 г.

Звяртаючыся да беларускіх сялянаў, "Мужыцкая праўда" ў першым нумары заявіла: "Возьмемся, дзецюкі, за рукі і дзяржэмся разам! А калі паны хочуць трымаць з намі, то няхай жа робяць па святой справядлівасці: бо калі іначай – так чорт іх пабяры! Мужык, пакуль здужае трымаць касу і сякеру, бараніць свайго патрапіць і ў нікога ласкі прасіць не будзе". Ніхто не дасць вольнасці сялянам. Яны павінны самі заваяваць яе і пабудаваць новы парадак – такі і так, як захочуць – вось лейтматыў "Мужыцкай праўды". "А для таго, дзецюкі, - папярэджваў Каліноўскі, - каб ніхто вас не мог ашукаць, цяпер ужо талкуйце памеж сабою, якой вам вольнасці патрэбна і якім адно спосабам мужык яе дастаць можа" (№ 3). Як відаць з прыведзеных радкоў, Каліноўскі адназначна зыходзіў з ідэі народнай, сялянскай рэвалюцыі і ўсталявання ў выніку яе народаўладдзя. У гэтых адносінах ён прынцыпова разыходзіўся не толькі з "белымі", але і з памяркоўнымі "чырвонымі", якія рабілі стаўку на вядучую ролю шляхты. Ён бліскуча – вельмі лаканічна, але ў той жа час проста і зразумела для кожнага непісьменнага селяніна – сфармуляваў ідэю дэмакратычнай народнай дзяржавы. "І як добры слуга глядзіць худобы гаспадарскай і слухае свайго гаспадара, - пісаў Каліноўскі, - так добры ўрад глядзець павінен шчасця людзей, слухаць народу і рабіці так як народові лепей. І не дзіва, бо не народ зроблены для ўрада, а ўрад для народа".



Аднак прамых заклікаў да захопу памешчыцкіх земляў у "Мужыцкай праўдзе" не было. Больш таго, у №7 газета прапагандавала Маніфест Польскага нацыянальнага ўрада ад 22 (10) студзеня 1863 г. і абвешчаную ў ім вельмі абмежаваную праграму. Нацыянальнае пытанне ў "Мужыцкай праўдзе" не ўзнімалася зусім. У поўнай меры свае рэвалюцыйна-дэмакратычныя пазіцыі К.Каліноўскі адстойваў і прапагандаваў на пасяджэннях ЛПК, дзе цвёрда і паслядоўна дамагаўся ўстанаўлення раўнапраўных адносінаў паміж ЛПК і ЦНК, прыняцця радыкальнай праграмы па аграрна-сялянскім пытанні, прызнання права Літвы-Беларусі на ўтварэнне самастойнай дзяржавы. Звесткі аб прынцыповых разыходжаннях яго з польскімі шляхецкімі рэвалюцыянерамі па праграмных і арганізацыйных пытаннях у падпольны друк

не трапілі. Тым не менш захаваліся сведчанні пра гэта, якія заслугоўваюць поўнага даверу.

У кнізе В.Ратча, які мог карыстацца ўсімі дакументамі следства, адзначана, што Каліноўскі "настойліва праводзіў ідэю самастойнасці Літвы", што яго партыя "вырашыла канчаткова пазбавіцца варшаўскай апекі". "Каліноўскі, - пісаў Ратч, - прымаў на сябе дыктатуру. Варшаўскі ўрад павінен быў <...> атрымаць паведамленне, што Літва і Беларусь – самастойная дзяржава". Па звестках Ратча, поспех паўстання Каліноўскі ў вырашальнай ступені звязваў з актыўным удзелам у ім сялянскіх масаў, са стварэннем сялянскай арганізацыі і ў сувязі з гэтым выступаў за перадачу ўсёй зямлі сялянству. На шляхту ён не спадзяваўся і выказваўся за ліквідацыю "гэтай гнілой і разбэшчанай касты".



Аналагічныя звесткі сустракаюцца ва ўспамінах сакратара варшаўскага нацыянальнага ўраду Юзафа Яноўскага. Каліноўскі, адзначаў ён, "не хацеў мець ніякіх адносінаў да шляхты, а абапіраўся толькі на народ. Сувязь Літвы з Польшчаю разумеў толькі як федэратыўную – з поўнай незалежнасцю Літвы.

Не прызнаваў спаўна ўлады Цэнтральнага камітэту, не жадаў прымаць адтуль ніякіх загадаў ці даручэнняў. Гэтая пазіцыя Каліноўскага, якую не ўсе ў Камітэце (ЛПК – М.Б.) поўнасцю падзялялі, была повадам для непаразуменняў". Аддаў належнае Каліноўскаму і Якуб Гейштар, лідэр літоўска-беларускіх "белых". "Гэта была натура запальчывая, - успамінаў ён, - але справядлівая, без аніякага ценю крывадушнасці. Адданы душою і сэрцам народу, аднак прыхільнік крайніх рэвалюцыйных тэорый, які не спыняўся нават перад развязваннем грамадзянскай вайны і думаў, да таго ж аб самастойнасці Літвы. Быў непараўнальным, узорным канспіратарам, душою Камітэта... Пры першым знаёмстве даказваў мне, што ўдзел шляхты і памешчыкаў у паўстанні не толькі не патрэбны, але і шкодны. Народ сам заваюе сабе свабоду і запатрабуе ўласнасць у памешчыкаў".

Крайняе абвастрэнне ўзаемаадносінаў паміж ЛПК і ЦНК у канцы 1862 г. засведчыў сябра ЦНК Аскар Авейдэ ў сваіх паказаннях следчай камісіі ў студзені 1865 г. Ен спасылаўся на факты выдалення са складу ЛПК варшаўскага камісара Нестра Дзюлерана, а затым і яго пераемніка, адзначыў цвёрдасць і рашучасць, з якой ЛПК дамагаўся раўнапраўнасці ва ўзаемаадносінах з Варшавай і перадачы ў падпарадкаванне Вільні Беластоцкага ваяводства. Менавіта Авейдэ па даручэнні ЦНК вёў перамовы пра статут з упаўнаважанымі ЛПК Эдмундам Вярыгам, а затым – з Баляславам Длускім. Першы з іх пайшоў на прынцыповыя ўступкі і пагадзіўся з статутам, паводле якога Вільня трапляла ў поўнае падпарадкаванне Варшаве. Толькі па пытанні пра тэрмін паўстання згода літоўскага прадстаўніка ў ЦНК была абавязковай. У іншым выпадку Літва не была абавязаная прыняць назначаны ў Варшаве тэрмін. ЛПК адхіліў гэтае пагадненне і паслаў для

перамоваў у Варшаву Б.Длускага. "Па нейкай сляпой цвёрдасці і яго і камітэту віленскага ў гэтых неабгрунтаваных, на наш погляд, патрабаваннях, - адзначаў Авейдэ, - я, нягледзячы на ўсе мае намаганні, на ўсе магчымыя ўступкі з боку Цэнтральнага камітэту, не паспеў прыйсці да пагаднення з Длускім на працягу цэлых двух ці трох тыдняў. Гэтая абставіна была сапраўднай і вялікай шкодай для рэвалюцыі, таму што да самога моманту паўстання [пагадненне] паміж Вільняй і Варшавай не адбылося". К.Каліноўскаму і яго аднадумцам так і не ўдалося паўплываць на пазіцыі ЦНК. Апошні цалкам праігнараваў патрабаванні беларуска-літоўскіх рэвалюцыйных дэмакратаў, як па праграмных, так і арганізацыйных пытаннях. Больш таго, нават рашэнне пра пачатак паўстання варшаўскія дзеячы прынялі, не ўзгадніўшы яго з Вільняй, не ўважыўшы, як пісаў Каліноўскі, "інтарэсаў Літвы". Гэта з усёй відавочнасцю паказала публікацыя маніфеста і аграрных дэкрэтаў польскага нацыянальнага ўраду ад 10 (22) студзеня 1863г.

***Пачатак паўстання ў Літве-Беларусі. Баявыя дзеянні.***

У крытычнай сітуацыі, створанай нечаканым абвяшчэннем паўстання Цэнтральным нацыянальным камітэтам, ЛПК даволі доўга вагаўся, як рэагаваць на дзеянні Варшавы. Тым больш, што згаданы вышэй пункт статуту, прывезенага ў Вільню Э.Вярыгам, вызваляў Літву ад абавязку падтрымкі паўстання ў Польшчы, калі яно пачыналася без згоды ЛПК. І ўсё ж пасля 10 сутак цяжкага роздуму і аналізу сітуацыі Віленскі камітэт 20 студзеня (1 лютага) 1863 г. выдаў свой маніфест, адрасаваны "літоўцам, беларусам, жэмайційцам і жыхарам іншых абласцей, занятых рускімі", у якім абвясціў правы і свабоды, вызначаныя польскім нацыянальным урадам, яго аграрную праграму і заклікаў падтрымаць паўстанне ў Польшчы. Маніфест ад 1 лютага азначаў, што левыя ў ЛПК на чале з Каліноўскім у тых драматычных умовах дзеля адзінства дзеянняў пайшлі на прынцыповыя ўступкі польскім шляхецкім рэвалюцыянерам па ўсіх праграмных пытаннях і фактычна поўнасцю падпарадкаваліся польскаму нацыянальнаму ўраду.

Тым не менш у Варшаве не было даверу да ЛПК, які абвясціў сябе Часовым урадам Літвы і Беларусі. Гэта засведчыў А.Авейдэ. "З часу паўстання, - пісаў ён, - Длускі выехаў у Вільню, а тамтэйшы камітэт пастанавіў прыняць удзел у рэвалюцыі <...> Але ўжо тады Віленскі камітэт у вышэйпералічаным складзе* не меў ніякага даверу ў нас". У лютым 1863 г. Н.Дзюлеран, выключаны раней з ЛПК, дамовіўся з лідэрамі віленскіх "белых" Аскеркам і Гейштарам пра захоп улады ў паўстанцкай арганізацыі Літвы-Беларусі і атрымаў згоду на гэта ад варшаўскага ўраду. 27 лютага (11 сакавіка) 1863 г. яны адхілілі ад улады Часовы ўрад Літвы і Беларусі на чале з К.Каліноўскім і замянілі яго Аддзелам кіраўніцтва правінцыямі Літвы, які ўзначаліў Якуб Гейштар. Н.Дзюлеран ізноў стаў камісарам ЦНК у Вільні. Ад імя Аддзела быў распаўсюджаны спецыяльны дэкрэт, якім абвяшчаліся несапраўднымі і адмяняліся "ўсе паўнамоцтвы і мандаты", выдадзеныя ЛПК. У сувязі з гэтымі падзеямі А.Авейдэ заявіў следчай камісіі: "Правінцыйны камітэт нейкі час не хацеў уступаць, але па загаду Цэнтральнага камітэту здаў і сваю арганізацыю (падпольныя структуры на тэрыторыі Літвы-Беларусі – М.Б.) і самога сябе новаўстаноўленай у Вільні рэвалюцыйнай уладзе. Каліноўскі адзін пратэставаў супраць "шляхты", пратэст гэты, аднак, Дзюлеран у Варшаву не прыслаў".

У заяве Каліноўскага гаварылася, што члены ЛПК лічаць пагібеллю і здрадай рэвалюцыі перадачу кіраўніцтва ў рукі контррэвалюцыянераў і "здымаюць з сябе ўсякую адказнасць перад будучыняй за ўсе памылкі і за ўсе страты і няшчасці, якія прынясе процілеглае духу і тэндэнцыям паўстання кіраўніцтва літоўскай справай".

Разам з тым ЛПК заявіў, што падпарадкоўваецца "галаве паўстання, бо "па-першае, не жадае пачынаць згубных для рэвалюцыі разладаў і нязгодаў і, па-другое, з-за таго, што не адчувае сябе дастаткова моцным, каб вырваць кіраўніцтва справамі з рук сваіх праціўнікаў".

Такім чынам, з прычыны слабасці рэвалюцыйна-дэмакратычных сілаў К.Каліноўскі вымушаны быў супрацоўнічаць з шляхецкімі рэвалюцыянерамі, фактычна, падпарадкавацца іх цэнтрам, дзейнічаць ад імя польскага нацыянальнага ўраду, прытрымлівацца ўстаноўленай гэтым урадам праграмы. Магчымасці звярнуцца да беларускага і літоўскага народаў з праграмай барацьбы, якая істотна адрознівалася б ад праграмы ЦНК, напрыклад, уключала лозунгі ліквідацыі памешчыцкага землеўладання на карысць сялянаў і абвяшчэння дзяржаўнай самастойнасці Літвы-Беларусі, у К.Каліноўскага не было.

У выпадку непадпарадкавання яму пагражала абвінавачванне ў дзяржаўнай здрадзе з адпаведнымі наступствамі. Пра гэта гаварылася ў пункце 5 Дэкрэта Аддзела кіраўніцтва правінцыямі Літвы аб ліквідацыі ЛПК ад 27 лютага (11 сакавіка): "Невыкананне або затрымка выканання загадаў як Нацыянальнага ўраду, так і яго чыноўнікаў і агентаў, самаўпраўныя дзеянні ў сучасных абставінах з'яўляюцца дзяржаўнай здрадай; вінаватыя ў такім злачынстве падлягаюць неадкладнаму пакаранню па ўсёй строгасці польскага ваеннага права".

Галоўнай задачай "белых", якія далучыліся да паўстання і захапілі кіраўніцтва, з'яўлялася недапушчэнне перарастання яго ў сялянскую рэвалюцыю. Праграма памяркоўных "чырвоных", абвешчаная ў "Маніфесце" і аграрных дэкрэтах ад 10 (22) студзеня, захоўвалася, што пацвердзіў дэкрэт ЦНК ад 10 мая 1863 г. аб пераўтварэнні яго ў Нацыянальны ўрад. Праўда, канкрэтызаваліся пазіцыі гэтага ўраду па нацыянальным пытанні. Урад абяцаў "братнім народам Літвы і Русі, злучаным з Польшчаю, забеспячэнне найшырэйшага развіцця нацыянальнасці і мовы" і "прызнанне Літвы і Русі ў якасці частак цалкам роўных з Каронай, з якой яны ўтвараюць адзіную цэласную дзяржаву"[25]. Адзначаныя пункты дэкрэта выключалі нават пастаноўку пытання пра правы беларусаў, літоўцаў і ўкраінцаў на самавызначэнне свайго лёсу.

Пасля роспуску ЛПК віленскі "белы" камітэт перагледзеў усе яго кадравыя прызначэнні ў сетцы падпольных структураў Літвы і Беларусі. У ваяводствы, паветы і акругі прызначаліся цывільныя начальнікі, важнейшай задачай якіх з'яўлялася матэрыяльнае забеспячэнне паўстанцкіх атрадаў. Арганізацыя іх і кіраўніцтва баявымі дзеяннямі ўскладваліся на ваяводскіх ваенных начальнікаў. Як правіла, яны былі і камандзірамі найбольш буйных атрадаў і злучэнняў. Каардынавалі дзейнасць цывільных і вайсковых паўстанцкіх уладаў ваяводскія камісары. На пасаду Гарадзенскага ваяводскага камісара пасля роспуску ЛПК быў прызначаны К.Каліноўскі.



Першыя паўстанцкія атрады прыбылі ў Беларусь з Польшчы ў студзені-лютым 1863 г. Самым буйным з іх быў атрад пад камандаваннем Р.Рагінскага. Праз Пружанскі пав. пры няспынным пераследзе царскіх войскаў, ён прайшоў да Пінскага пав., дзе каля вёскі Боркі ў лютым быў разбіты. Фармаванне мясцовых атрадаў і выхад іх у месцы збору пачаліся ў сакавіку-красавіку 1863 г.

Абмежаваная праграма паўстання і прыход да кіраўніцтва "белых" выключалі магчымасць шырокага ўдзелу ў ім сялянства Беларусі і Літвы, для якога быў зусім чужы і непрымальны лозунг польскіх шляхецкіх рэвалюцыянераў пра аднаўленне Польшчы ў межах Рэчы Паспалітай 1772 г. Сярод расейскай нават ліберальна-дэмакратычнай грамадскасці гэты лозунг выклікаў небывалы ўздым вялікадзяржаўнага шавінізму. Яму супрацьстаяў фактычна толькі герцэнаўскі "Колокол". Аднак прыхільнікаў у яго было мала. Праз дзяржаўныя ўстановы, царкву, школу, друк шавіністычная хваля шырока распаўсюдзілася ў Расеі і паралізавала намаганні "Зямлі і волі" узняць усерасейскае сялянская паўстанне. Гэтым, па сутнасці, прадвызначаўся і лёс паўстання ў Польшчы, Літве і Беларусі. Спадзяванні ягоных кіраўнікоў на дапамогу заходніх дзяржаў таксама не спраўдзіліся. У адзінаборстве з магутнай расейскай арміяй паўстанцы былі асуджаныя на паражэнне ў Беларусі і Літве. Іх налічвалася не больш за 15 тыс., а змагацца давялося супраць рэгулярнага войска, якое складалася з 318 ротаў салдатаў, 48 эскадронаў кавалерыі, 18 казацкіх соцен і мела на ўзбраенні 120 палявых гарматаў.



З прычыны несувымернасці сілаў баявыя дзеянні паўстанцаў, узброеных у большасці косамі, пікамі і паляўнічымі стрэльбамі, з самага пачатку набылі характар партызанскай барацьбы. Атрады пазбягалі сутычак з больш моцнымі сіламі ворага і нападалі на яго тады, калі была надзея на поспех. Яны пастаянна знаходзіліся ў руху. Прыходзячы ў вёску ці мястэчка, паўстанцы склікалі сходы жыхароў, абвяшчалі ім маніфест і аграрныя дэкрэты, складалі акты аб передачы зямлі ва ўласнасць сялянаў, прымалі ад іх прысягу на вернасць рэвалюцыйнаму ўраду, знішчалі дакументы валасных канцылярыяў, забіралі казённыя грошы, а сабраныя з сялянаў падаткі вярталі ім. Іншы раз праводзілі публічныя суды і пакаранні людзей, якія дапамагалі ўладам у барацьбе з паўстаннем. Усяго на сучаснай тэрыторыі Беларусі з лютага па жнівень 1863 г. зафіксавана 46 баёў і баявых сутычак паўстанцаў з царскімі войскамі. З іх 2/3 адбыліся на Гарадзеншчыне і Віленшчыне.

У Гарадзенскай губ. вясною 1863 г. дзейнічалі 5 паўстанцкіх атрадаў, у якіх налічвалася каля 1700 чалавек. У маі яны правялі больш за 20 баёў. Найбуйнейшы з іх адбыўся 21 мая каля мястэчка Мілавіды Слонімскага пав. З аднаго боку ў ім удзельнічала каля 800 паўстанцаў (некалькі атрадаў), а з другога – 5 ротаў салдатаў, якія мелі 4 гарматы. Бой працягваўся некалькі гадзінаў. Карнікі не змаглі ўзяць лагер паўстанцаў і з вялікімі стратамі адыйшлі. Аднак і паўстанцам не даводзілася чакаць прыбыцця новых сілаў ворага. Ноччу яны непрыкметна пакінулі лагер.

Паўстанне ў Гарадзенскай губ. вызначалася адносна больш актыўным удзелам у ім сялянаў. З усіх сялянаў, што ўдзельнічалі ў паўстанні на сучаснай тэрыторыі Беларусі, больш за 33% прыходзілася на Гарадзеншчыну. Адпаведны паказчык па беларускіх паветах Віленскай губ. складаў 27%, па Менскай – 20%, Магілёўскай – 13%, Віцебскай – толькі 7%.

Адносны поспех на пачатку паўстання спадарожнічаў выступленню атрада Л.Звяждоўскага, прызначанага ваенным начальнікам Магілёўскага ваяводства. З дапамогай студэнтаў Горы-Горацкага земляробчага інстытуту яму ў ноч на 24 красавіка 1863 г. удалося захапіць павятовы

цэнтр Горкі. Аднак мясцовыя сяляне не падтрымалі паўстанцаў, і атрад Звяждоўскага неўзабаве быў разбіты.

Недавер у сялянаў выклікаў факт падтрымкі паўстання з боку мясцовых польскіх памешчыкаў, абмежаваная праграма яго кіраўнікоў, лозунг аднаўлення польскай дзяржавы. Да таго ж улады і праваслаўная царква распаўсюджвалі ілжывыя чуткі, быццам польскія памешчыкі паўсталі супраць рускага цара за тое, што ён вызваліў сялянаў з прыгону і імкнуцца аднавіць прыгонны лад. Моцна паўплывалі на сялянаў і тыя змены ў рэалізацыі рэформы 19 лютага, на якія пайшоў урад у сувязі з паўстаннем. У выніку большасць сялянства Беларусі не падтрымала паўстанне, а значная частка, асабліва ў Віцебскай і Магілёўскай губ., выступіла супраць яго, дапамагала ўладам лавіць паўстанцаў, граміла маёнткі польскіх землеўласнікаў.

***Вяртанне К.Каліноўскага да кіраўніцтва паўстаннем у Літве-Беларусі.***

Разгром многіх паўстанцкіх атрадаў, шматлікія страты ў выніку баявых дзеянняў і арыштаў, пасіўнасць “белых” у падпольных структурах прымусілі Н.Дзюлерана, які з пачатку сакавіка фактычна ўзначальваў Аддзел кіраўніцтва правінцыямі Літвы, ізноў запрасіць у Вільню К.Каліноўскага. Разам з ім на пачатку чэрвеня 1863 г. у склад віленскага паўстанцкага цэнтру, які стаў называцца Выканаўчым аддзелам Літвы, увайшлі Уладыслаў Малахоўскі і Іосіф Каліноўскі. Дзякуючы ім дзейнасць Аддзела прыкметна актывізавалася і радыкалізавалася. Рашучасцю, прынцыповасцю і адданасцю рэвалюцыйнай справе па-ранейшаму вызначаўся К.Каліноўскі.

Істотныя змены ў характары кіраўніцтва паўстаннем адзначаліся ў лісце камандзіру паўстанцкага атрада Ф.Віславуху ад 16 (28) чэрвеня 1863 г. Аўтар ліста (відаць У.Малахоўскі) паведамляў: “У нас у Літве толькі цяпер справа даходзіць да грамадзянскай арганізацыі, бо да гэтага часу адміністрацыя ў правінцыі амаль не дзейнічала з-за подласці і баязлівасці дваранства. Цяпер малады элемент бярэ дваранства ўціскі. Праз 2-3 тыдні вы адразу адчуеце гэтае адрозненне”.

Уплыў К.Каліноўскага і яго аднадумцаў у Выканаўчым аддзеле дастаткова выразна праявіўся ў “Прыказе ад ураду польскага над цэлым краем Літоўскім і Беларускім да народу зямлі Літоўскай і Беларускай”, выдадзеным у тым жа месяцы на беларускай мове. У ім выкрывалася хлусня афіцыйнай прапаганды наконт паўстання як “справы польскіх паноў”. У сувязі з гэтым ад імя паўстанцаў заяўлялася: “<…> дзела наша – не дзела панскае, а справядлівай вольнасці, якой вашы дзяды ды бацькі здаўна жадалі <...> Пан будзе ліхі – пана павесім як сабаку! Мужык будзе кепскі* – то і мужыка павесім <...>” Адозва заклікала “чыншаў, аброкаў і падаткаў у казну маскоўскую да і панам ніякіх больш не плаціць” (“бо гэта ўжо зямля ваша”). Паводле загаду, падаткі “народ зямлі Літоўскай і Беларускай” павінен быў плаціць “казне польскай”.

З 31 ліпеня К.Каліноўскаму былі перададзены паўнамоцтвы старшыні Выканаўчага адзела Літвы, а з 22 жніўня – паўнамоцтвы камісара варшаўскага ўраду ў Вільні. Такім чынам, да канца лета 1863 г. у яго руках сканцэнтравалася ўся паўната ўлады ў паўстанцкай арганізацыі на тэрыторыі Беларусі і Літвы. Аднак выкарыстаць яе для рэалізацыі сваёй праграмы ён ужо не меў ні часу, ні магчымасці, бо, паводле ацэнкі Міхаіла Мураўева, на пачатку верасня паўстанне ў беларуска-літоўскіх губернях было практычна задушана.

***Падаўленне паўстання.***

Распаўсюджанне польскага нацыянальна-вызваленчага руху ў 1861 г. у Віленскай, Гарадзенскай і Ковенскай губ. прымусіла ўрад аб’явіць у гэтых губернях у жніўні таго ж года ваеннае становішча. З пачаткам паўстання яно было ўведзенае ў Менскай, Віцебскай і Магілёўскай губ., далучаных да Віленскага

генерал-губернатарства. У маі 1863 г. генерал-губернатарам 6 беларуска-літоўскіх губерняў Аляксандр II прызначыў генерала М.М.Мураўёва, які яшчэ ў пачатку 30-х гадоў служыў Мікалаю I на пасадах Магілёўскага і Гарадзенскага губернатараў, добра ведаў край і меў вопыт падаўлення тагачаснага польскага паўстання. Цар ухваліў яго праграму "супакаення" краю і надзяліў дыктатарскімі паўнамоцтвамі. Мураўёву падпарадкоўваліся ваенныя губернатары і ваенныя начальнікі паветаў, узброеныя сілы, жандармерыя і паліцыя, следчыя камісіі і ваенна-палявыя суды. Прысуды апошніх пасля зацвярджэння ваеннымі губернатарамі і генерал-губернатарам выконваліся неадкладна. Смяротныя пакаранні адбываліся публічна, звычайна на плошчах гарадоў. Усяго ў краі было пакарана больш за 15 тыс. чалавек. З іх 123 былі павешаныя ці расстраляныя, 12 355 сасланыя на катаргу ў Сібір і ў арыштанцкія роты, 2 855 аддадзеныя пад нагляд паліцыі па месцы жыхарства, 3 776 высланыя без следства і суда.

Паказальна, што каля 70% усіх удзельнікаў паўстання, прыцягнутых да адказнасці, складала шляхта, у абсалютнай большасці беззямельная і малазямельная, якая здабывала сродкі для жыцця ўласнай працай на арандаванай зямлі ці ў рамястве, службай у дзяржаўных і прыватных установах. Прадстаўнікі дэмакратычных пластоў гарадскога насельніцтва і беззямельнай шляхты (фактычна разначынцы) складалі каля 75% усіх паўстанцаў на тэрыторыі Беларусі.

Нерухомая і рухомая маёмасць пакараных па суду канфіскоўвалася, а высланых адміністрацыйна – секвестравалася. На ўсіх западозраных у спачуванні паўстанцам адвольна накладваліся усе магчымыя і нічым не рэгламентаваныя штрафы. Жыхарам мужчынскага полу акрамя сялянаў забаранялася без дазволу ўладаў адлучацца з дому далей, чым на 30 вёрстаў. У сельскай мясцовасці з ліку сялянаў ствараліся ўзброеныя каравулы ад 60 да 100 чалавек кожны, у якія ўключаліся па некалькі салдатаў на чале з унтэр-афіцэрамі. На спецыяльных заставах яны павінны былі правяраць усіх прахожых і праезджых, лавіць і пераследаваць паўстанцаў. За іх выдачу сялянам даваліся грашовыя ўзнагароды. Тыя ж вёскі, дзе паўстанцы знаходзілі падтрымку, цалкам спальваліся, маёмасць жыхароў прадавалася з аукцыёну, а самі яны высылаліся ў аддаленыя губерні Расеі. Маёнткі памешчыкаў, якія не даносілі паліцыі пра з'яўленне ў іх уладаннях паўстанцаў, адбіраліся ў казну. Былі закрытыя дваранскія сходы, а выбраныя імі прадвадзіцелі (маршалкі) дваранства, міравыя пасрэднікі і ўвогуле ўсе чыноўнікі, якія па службовых абавязках мелі непасрэдныя зносіны з насельніцтвам, замененыя расейскімі чыноўнікамі. Тое ж рабілі з настаўнікамі і медычнымі работнікамі. Выхадцаў з Расеі на службу ў Беларусь і Літву прыцягвалі павышанымі на 50% акладамі, магчымасцю набыць на незвычайна льготных умовах зямлю і зрабіць хуткую кар'еру. Касцёлы і кляштары за падтрымку паўстання закрываліся ці ператвараліся ў праваслаўныя храмы.



Жорсткімі рэпрэсіямі М.Мураўёў прымусіў "белых" памешчыкаў і вышэйшае каталіцкае духавенства адмовіцца ад падтрымкі паўстання. Гэта замацоўвалася падпісаннем вернападданіцкіх адрасоў на імя цара.

Ва ўмовах страшэннага тэрору, здрадніцтва і шпіёнства К.Каліноўскі, дзякуючы

незвычайным здольнасцям канспіратара, пратрымаўся на волі да канца студзеня 1864 г. Ён не раз мог перабрацца за мяжу, але не пайшоў на гэта, бо імкнуўся зрабіць усё магчымае, каб захаваць у Беларусі і Літве падпольную паўстанцкую арганізацыю з мэтай падрыхтаваць новае паўстанне вясною 1864 г. Выдадзены здраднікам, К.Каліноўскі ў ноч на 29 студзеня 1864 г. трапіў у рукі М.Мураўёва. На следстве, якое працягвалася да канца лютага, трымаў сябе мужна, з высокай годнасцю.

Паказанні К.Каліноўскага ад 30 студзеня – 26 лютага 1864 г. не раскрываюць яго пазіцыі па важнейшых праграмных і арганізацыйных пытаннях. У нейкай меры яна асветленая ў ягонай "Запісцы", напісанай 28 лютага пасля адмовы даваць далейшыя паказанні. Свой край у гэтай заяве Каліноўскі пастаянна называе "Літвою", а насельніцтва – "літоўцамі". Назвы "Беларусь", "беларусы" зусім не згадваюцца. У "Запісцы" адзначана, што паўстанне, якое ўспыхнула ў Польшчы, "заспела Літву зусім не падрыхтаванай у гэтых адносінах, нават ледзь не варожай ("непрыязненною") усялякім падобным хваляванням пры яе тагачасным становішчы". "Царства Польскае, - пісаў Каліноўскі, - <...> сваім паўстаннем не ўважыла інтарэсаў Літвы. Літва тады <...> перажывала крытычныя хвіліны <...> Доўгая нерашучасць Літвы можа служыць таму доказам". Такім чынам, аўтар "Запіскі" ў самай агульнай форме пацвердзіў наяўнасць вельмі сур'ёзных супярэчнасцяў паміж кіраўнікамі паўстання ў Польшчы, з аднаго боку, і ў Літве-Беларусі, з другога. Адну з прычынаў паражэння Каліноўскі бачыў у насцярожаных, недаверлівых адносінах да яго сялянства, асабліва былых прыгонных, з-за кіруючага становішча ў памешчыкаў. "Селянін, - гаварылася ў "Запісцы", - бачачы неабрэзаныя яшчэ кіпцюры сваіх паноў, не мог ім даверыцца і стаў глядзець на справу польскую як на зацею памешчыцкую, а органы ўрада такое разуменне селяніна стараліся падтрымліваць".

К.Каліноўскі падкрэсліў, што менавіта ў час панавання Расеі ўзмацнілася "выпрацаванае гісторыяй спачуванне Літвы да Польшчы", і гэта перадвызначыла яе ўдзел у польскім паўстанні. Сцісла ахарактарызаваўшы сваю дзейнасць на пасадах Гарадзенскага ваяводскага камісара і памочніка Н.Дзюлерана ў Вільні, а затым і аднаасобнага кіраўніка паўстання ў краі, Каліноўскі ў заключэнне выказаў сваю думку наконт намеру царскага ўраду поўнасцю зліць "Літву" з Расеяй "з мэтай ашчаслівіць тутэйшы народ". У гэтай сувязі ен адзначыў: "Я не праціўнік шчасця народнага, не праціўнік і Расеі, калі яна дабра нам жадае, але праціўнік тых бедстваў, якія пасягаюць край наш няшчасны". Гэтая заява яшчэ раз пацвярджае, што Каліноўскі выступаў як выразнік інтарэсаў не Польшчы, а Літвы-Беларусі, што ён, акрамя таго, зусім не з'яўляўся фанатычным ворагам Расеі і фармуляваў свае адносіны да яе ў залежнасці ад стаўлення Расеі да краю і яго народаў.



Знаходзячыся ў турме і не маючы ніякіх ілюзій наконт свайго далейшага лёсу, К.Каліноўскі напісаў і перадаў на волю пісьмо ў трох частках. У 1867 г. яно было надрукаванае былым сябрам варшаўскага паўстанцкага ўраду Агатонам Гілерам у ягонай кнізе "Гісторыя паўстання..." пад назвай "Do ludu Białoruskiego Piśmo z pod szybienicy Konstantego Kalinowskiego". Польскамоўны загаловак сведчыць пра тое, што дадзены ён

пры публікацыі пісьма А.Гілерам. Пісьмо ж напісанае і апублікаванае па-беларуску. Мэта яго выказаная ў першых радках: “<...> Пісьмо аддрукуйце, каб знаў свет Божы, як мужыкі Беларусы глядзяць на Маскалёў і паўстанне польскае, чаго яны хочуць і чаго па сваёй сіле дабіваюціся будуць <...>” Тут, як відаць, Каліноўскі адназначна далучаў сябе да “мужыкоў Беларусаў” і гаварыў ад іх імя, аддзяляючыся, з аднага боку, ад “маскалёў”, а з другога – палякаў (“паўстання польскага”). Заклікаючы свой народ да далейшага змагання за волю, ён выказаўся за ўтварэнне самастойнага ўраду для Літвы-Беларусі: “Нам адно сільно з шчырай верай за сваё стаяці трэба, а ронд (урад) наш павінен быць на ўсе чуткі, каб для дабра народнага з усяго карыстаць”. Ваенна-палявы суд прыгаварыў К.Каліноўскага да расстрэлу, але Мураўёў выказаўся за павешанне. Пакаранне адбылося 10 (22) сакавіка 1864 г. у 10 гадзін 30 хвілін раніцы на Лукішскай плошчы ў Вільні ў прысутнасці велізарнай колькасці людзей. Стоячы перад шыбеніцай, за момант да смерці К.Каліноўскі ўнёс “папраўку” ў прыгавор. Калі яго назвалі “дваранінам”, ён крыкнуў: “У нас няма дваранаў, усе роўныя!”



***Значэнне паўстання.***

У паўстанні 1863 г., якое ў тых умовах амаль не мела шанцаў на перамогу, праявілася мужнасць, рашучасць і самаахвярнасць многіх сыноў Беларусі ў змаганні за волю і лепшую долю народа.

Сярод іх як сапраўдны нацыянальны герой вылучыўся К.Каліноўскі. Менавіта з яго дзейнасцю звязанае перарастанне беларускага нацыянальна-культурнага руху ў палітычны, у барацьбу за дзяржаўнасць Беларусі ў форме народаўладдзя, пры якой урад быў бы добрым слугою народа. Упершыню была сфармуляваная рэвалюцыйная праграма, якая зыходзіла з інтарэсаў сялянаў і была разлічаная на ажыццяўленне сіламі арганізаванага сялянства і іншых пластоў працоўнага насельніцтва. Аднак у кіраўніцтве паўстання верх захапілі польскія нацыяналістычна настроеныя шляхецкія рэвалюцыянеры. Прадыктаваная імі абмежаваная праграма паўстання, з аднаго боку, і царысцкія ілюзіі ў вёсцы, з другога, прычыніліся да таго, што большасць сялянаў не падтрымала паўстанцаў, а значная частка выступіла супраць іх. Гэта з’явілася адной з прычынаў паражэння паўстання. Тым не менш, дзякуючы яму, сяляне Беларусі атрымалі ад урада істотныя ўступкі ў ходзе рэалізацыі рэформы 1864 г., якія аблегчылі іх становішча і паскорылі развіццё капіталістычных адносінаў у беларускай вёсцы.

Пасля падаўлення паўстання ў заходніх губернях пачалася працяглая паласа палітычнай рэакцыі і татальнай русіфікацыі, усталяваўся рэжым выключных законаў. Жорсткімі рэпрэсіямі былі знішчаны тыя парасткі беларускага нацыянальна-культурнага адраджэння, якія з’явіліся ў 40-50-я гады, і надоўга выкаранены ўсе праявы рэвалюцыйнай і адраджэнскай дзейнасці. З паўстаннем звязанае і закрыццё адзінай на той час вышэйшай навучальнай установы ў Беларусі – Горы-Горацкага земляробчага інстытуту. Да канца свайго існавання самадзяржаўе так і не дазволіла адкрыць хоць бы адну ВНУ, што адмоўна адбілася на фармаванні інтэлігенцыі, развіцці навукі і культуры ў Беларусі.



## Постаці паўстання 1863-1864

# Баляслаў Аскерка

Баляслаў Паўлавіч Аскерка нарадзіўся ў маёнтку Вадовічы Рэчыцкага павету ў 1822 годзе.
Належаў да старажытнага каталіцкага шляхецкага роду Аскеркаў гербу «Мурдэліа». Род яго бацькі некалькі пакаленняў адносіўся да рэгіянальнай эліты Мазырскага і Рэчыцкага паветаў ВКЛ, а род маці — Мазырскага павета і Навагрудскага ваяводства.



Нарадзіўся ў сям'і Ігната-Паўла Леапольдавіча Аскеркі (1777—каля 1815) і Францішкі Янаўны Яленскай у родавым маёнтку Вадовічы Рэчыцкага павету Мінскай губерні. Яго бацька быў значным землеўласнікам і валодаў спадчыннымі родавымі маёнткамі Малыя Вадовічы і Вялікія Вадовічы ў Рэчыцкім павеце (каля мяжы з Мазырскім паветам), дзе ў 1814 налічвалася 652 рэвізскія душы. Маючы такія зямельныя валоданні, шырокія сваяцкія сувязі сярод самых заможных і ўплывовых сямей Рэчыцкага павета, персанальны аўтарытэт сярод мясцовых дваран, Ігнат-Павел Аскерка выбіраўся павятовымі дваранамі на пасады старшыні рэчыцкага земскага суда, засядацеля ІІ-га дэпартамента Галоўнага суда Мінскай губерні (упам.1801), мазырскага гродскага суддзі (1802—1803), а перад смерцю яшчэ і паслужыў па выбару дваран рэчыцкім павятовым маршалкам (1814—1815). Маці, Францішка Янаўна Яленская, была дачкой Яна Рафалавіча-Юзафавіча Яленскага (каля 1740—1810), мазырскага старосты (1786—1795) і мазырскага павятовага маршалка (1795—1802).
Быў студэнтам універсітэта ў Дэрпце (Ліфляндская губерня), дзе ў 1836 стаў членам таемнага таварыства Карла Гільдэбрандта, за што, у выніку выкрыцця арганізацыі, быў зняволены царскімі ўладамі. Пазней жыў у маёнтку Ячонка Мінскага павету. Валодаў па спадчыне маёнткам Вадовічы ў Рэчыцкім павеце, дзе ў 1850 налічвалася 542 рэвізскія душы.
У 1862 быў выбраны ў Мінску на чарговых дваранскіх выбарах на пасаду мазырскага павятовага маршалка (1862—1863). Напярэдадні паўстання 1863—1864 гадоў далучыўся да групоўкі «белых», быў прызначаны паўстанцкім начальнікам Мінскага павета. Пасля арышту царскімі ўладамі, знаходзіўся ў Мінску ў гарадской турме («Пішчалаўскім замку»), за ўдзел у паўстанні 1863—1864 гадоў быў асуджаны на катаргу і 30 жніўня 1865 высланы з вязніцы ў Мінску ў Іркуцкую губерню.
Паводле даравальнага царскага маніфесту ў 1875 вярнуўся на радзіму з Іркуцкай губерні. З 1875 жыў і памёр у Варшаве. Пахаваны ў Варшаве на Павазкоўскіх могілках.



# Зразумець Каліноўскага

Вакол Кастуся Каліноўскага зараз шмат спрэчак. Ангажаваныя ў нацыянальны дыскурс інтэлектуалы абураюцца, што асобныя прыдворныя гісторыкі не лічаць кіраўніка антыцарскім паўстаннем 1863 г. у Беларусі нацыянальным героем.
Але важна не толькі паказваць абсурднасць поглядаў абсалютна ангажаваных у расійскую традыцыю асобаў на беларускую гісторыю. Важна і самім беларусам зразумець Каліноўскага. А зразумець Каліноўскага, значыць зразумець гісторыю Беларусі XIX ст.,

значыць стаць патрыётамі Беларусі. Толькі, каб зразумець Каліноўскага і яго эпоху, трэба паглядзець на тое далёкае мінулае вачыма нашага героя.
Хай нікога не засмучае, што Каліноўскі змагаўся за адраджэнне ВКЛ. У той час, калі ён жыў, афіцыйнай назвы “Беларусь” для ўсяго краю не існавала. А таму ён мог змагацца толькі за тое, што было ў рэальнасці, за аднаўленне знішчанага царызмам ВКЛ.
Пра тое, што гэту аднoўленую і абноўленую дзяржаву ён бачыў беларускай, сведчыць яго імкненне адрадзіць уніяцтва, якое было чужым і для палякаў і для літоўцаў, бо яны спавядалі каталіцызм.



Пра гэта сведчыць і тое, што ён звяртаўся да свайго народа на яго роднай мове (“браты мае, мужыкі родныя”, “дарагі мой народзе”) і дзеля яго ахвяраваў сваім жыццём. Ён не шкадаваў рэзкіх слоў для спаланізаваных памешчыкаў, гаворыў пра Бацькаўшчыну і дыстантаваўся ад Польшчы, але заклікаў сваіх “дзецюкоў” (хлопцаў) браць прыклад у барацьбе за волю з польскіх мужыкоў.
Застаецца, на жаль, дакладна невядомым – якое месца ў новым ВКЛ беларускі правадыр адводзіў яўрэям і літоўцам. Яго сціплая літаратурная спадчына не дазваляе меркаваць пра гэта. Але, хутчэй за ўсё, ВКЛ бачылася Каліноўскаму як правобраз сучаснай дзяржавы, дзе прадстаўнікі розных этнасаў жывуць супольна і раўнапраўна, гэта значыць, твораць адзіную палітычную нацыю. Продкаў сучасных літоўцаў Каліноўскі, нібыта, не заўважаў, а да яўрэяў адносіўся добразычліва. У “Пісьмах з-пад шыбеніцы”[2] ён пісаў, што пасля пераходу памешчыкаў на бок паўстанцаў, “маскалі“, каб уратавацца, пачалі прыпісвацца нават да яўрэйскіх брацтваў, але яўрэі не прымаюць “такіх, што нажлапталіся [напіліся] нямала і слёз і крові жыдоўскай”. Але яўрэі нідзе не ўзгадваюцца Каліноўскім у якасці саюзнікаў. У той час яўрэйская абшчына яшчэ жыла сваім ізаляваным рэлігійным жыццём, у палітыку не ўмешвалася і нават з надзеяй чакала ад рускага цара Аляксандра II пашырэння сваіх правоў.[3]
Калі б мары Кастуся Каліноўскага здзейсніліся, краіна сучасных беларусаў магла б называцца Літва, а яны самі – ліцвінамі. Дык чаму ж тады нашы продкі не захавалі ліцвінскі праект стварэння сучаснай нацыі пад назвай “Вялікае Княства Літоўскае” ці “Літва”, які прапаноўваў Каліноўскі, а ўзяліся за рэалізацыю нацыянальнага праекта пад назвай “Беларусь”? Чаму правінцыйная назва “Беларусь”, урэшце, замацавалася ў канцы XIX – пачатку XX ст. за ўсёй этнічнай тэрыторыяй сучасных беларусаў?
Каб адказаць на гэта пытанне, трэба ведаць, што гэта за дзяржава ВКЛ і як яе трактаваць. Гэта праблема зараз застаецца адной з самых карэнных у сучаснай беларускай гістарыяграфіі. Скажам тут толькі пра самае простае. Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойтскае – так гучала яго поўная назва. У сучаснай сусветнай гістарыяграфіі гэту поўную назву пісаць, неяк, не прынята. Можа таму, што іначай даследчыкам, якія лічаць гэту дзяржаву літоўскай (у сучасным сэнсе) прыдзецца пераглядаць свае канцэпцыі. На маю думку, поўная назва Княства сведчыць аб вялікай ролі ў гэтай дзяржаве беларусаў, украінцаў і літоўцаў, якіх раней называлі ліцвінамі (літоўцамі), русінамі і жамойтамі. Пасля распаду Савецкага Саюза гэтыя народы

вярнуліся да актыўнага нацыянальнага жыцця і сталі прэтэндаваць на ВКЛ. Спробы вырашыць праблему па прынцыпу – гэта дзяржава не ваша, а наша – аказалася зусім не прадуктыўнай і яна ніколі не прывядзе да паразумення паміж беларусамі, літоўцамі ды ўкраінцамі. Таму, на мой погляд, не варта ўвогуле даваць гэтай сярэднявечнай дзяржаве нейкае нацыянальнае вызначэнне, як гэта і рабіў Каліноўскі. Тым больш, што ў часы ВКЛ сучасных нацый і не існавала. Проста гэта была дзяржава, якая стала калыскай для трох сучасных нацыянальных дзяржаў – беларускага, літоўскага, украінскага. Усе гэтыя народы маюць права на гісторыка-культурную спадчыну Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага.

З гэтага вынікае, што беларусаў нельга лічыць негістарычнай нацыяй. Міфы пра гістарычную непаўнавартасць сучасных беларусаў, пра іх адвечным адзінстве з рускімі і пра заваёву беларусаў літоўцамі былі створаны па загаду расійскай імператрыцы Кацярыны II (1762—1796) пасля захопу Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойскага. Фальсіфікацыя падмацоўвалася жорсткай рэвізіяй і знішчэннем неадпаведных гістарычных дакументаў на працягу ўсяго перыяду існавання царызму. Хто ведаў сапраўдную гісторыю краю, не забыўся пра яе, той змагаўся з царскай няволяй. Кастусь Каліноўскі добра ведаў гісторыю свайго народа і адстойваў яго права на гісторыка-культурную спадчыну сярэднявечнага Княства. Дарэчы, пазней царскія міфы перанялі гісторыкі Польшчы, Літвы, Савецкага Саюза і, практычна, усяго свету. Расійская фальшыўка і зараз выдаецца ў сусветнай гістарыяграфіі за сапраўдную гісторыю Беларусі ад старажытных часоў да 1917 г. Вобраз ВКЛ быў выціснуты з памяці беларускага народа, што вельмі аслабіла яго нацыянальны дух.

Урад Расійскай імперыі дзяліў тэрыторыю захопленага Княства на Беларусь і Літву, а дакладней – на Беларускае і Літоўскае генерал-губернатарствы. Хоць раней у Княстве правінцый было больш: Літва, Русь, Жамойць, Палессе і інш. Назва "Белорусія" існавала дзесці на маргінесе і ў маскоўскай традыцыі. Падзел ВКЛ на Беларусь і Літву рабіў паглынанне Расіяй захопленых земляў больш лёгкім. Ён праводзіўся ў два этапы: спачатку Беларусь, а потым – Літва. Аднак хоць тэрыторыя былога ВКЛ і мела рэгіянальныя адметнасці (асабліва на ўсходзе), яна працягвала усё ж захоўваць сваё адзінства і своеасаблівасць як асобны рэгіён Расійскай імперыі аж да яе распада. Сімвалам адзінства тэрыторыі былога ВКЛ можна лічыць знакамітага паэта Адама Міцкевіча і яго творчасць. Край лучылі традыцыя і памяць, адзіныя законы (Літоўскі Статут дзейнічаў да 1840 г.), сужыццё з вялізарнай яўрэйскай абшчынай, запёртай у рысе аселасці, а таксама царская палітыка дыскрымінацыі мясцовага насельніцтва. Такім, адзіным, успрымаў свой край і Каліноўскі, які змагаўся за яго вызваленне з-пад гнёту Расіі.

Тэрыторыя былога Княства заставалася ў сферы еўрапейскага ўплыву, захоўвала еўрапейскія традыцыі, таму непазбежна станавілася актыўным праваднікoм еўрапейскіх уплываў на царскую імперыю. Кастусь Каліноўскі добра разумеў перавагу сваёй Бацькаўшчыны над Расіяй з яе традыцыямі дыспатызму, таму ставіўся да гэтай дзяржавы з пагардай, а расійскіх сялян зваў да супольнай барацьбы супраць царызму. Гэты апошні н'юанс у поглядах Каліноўскага неяк не заўважаюць ці не ведаюць сучасныя ворагі беларускага лідэра. Складваецца ўраджанне, што яны б маглі павесіць яго, як "ворага" Расіі, у другі раз.

Фактычна і ў свядомасці людзей, якія апынуліся ў складзе Расійскай імперыі, заставалася адзінае для свайго Краю назва – "Літва". Накінутая ім царызмам назва "Беларусь" спачатку прыжылася толькі ў памежжы з унутранай Расіяй. Але і там (Віцебская, Магілёўская губерні) у першай палове XIX ст. інтэлектуалы лічылі сябе ліцвінамі (літоўцамі). Так, Арцём Вярыга-Дарэўскі (1816-1884) з Віцебшчыны – белорускамоўны літаратар і перакладчык паэмы Адама Міцкевіча "Конрад Валенрод" – казаў, што ён – літовец, а сваю мову называў літоўскай.

Пасля антыцарскага паўстання 1830/31 гг. стала відавочным, што замацаванне назваў "Літва" і "Беларусь" за пэўнымі тэрыторыямі абцяжарвала інкарпарацыю Края ў імперыю, бо абуджала ў іх жыхароў рэгіянальную ідэнтычнасць. У 1840 г. расійскі імператар Мікалай II забараніў называць губерні на

тэрыторыі былога ВКЛ Беларускімі і Літоўскімі. У справах камітэта міністраў Расіі 26 чэрвеня на гэты конт зроблены такі запіс: "По случаю поднесения императору указа, в котором упоминались губернии Белорусские и Литовские, государь, зачеркнув название Белорусских и Литовских, изволил приказать переписать указ с наименованием губерний каждой отдельно Витебская, Могилевская, Виленская и Гродненская, причем последовало повеление собственноручное: "Правила сего держаться и впредь, никогда иначе не прописывая как поименно губернии!" Царскі загад меў свае вынікі. З афіцыйнай тэрміналогіі найперш выціскалася назва "Літва". У той жа год было канчаткова забаронена і ўжыванне ў справаводстве "Статута ВКЛ". Афіцыйная ж назва "Беларусь" захоўвалася ў большым памеры. Пачаўся другі этап русіфікацыі заходняй часткі былога Княства. Праводзілася поўнае замоўчванне або нават знішчэнне культурнай спадчыны гэтага Княства. Літва для ўладаў перастала існаваць.

У 1863 г. паўстанцы з сучасных Літвы і Беларусі яшчэ змагаліся за адраджэнне адзінага ВКЛ. Левае крыло чакала падтрымкі ад сялян. Крыло памяркоўных і больш рацыянальных асноўныя надзеі ўскладала на падтрымку заходніх краін. Толькі так можна было вырвацца з-пад расійскага ярма, бо надзеі на падтрымку народа або дэмакратызацыю Расіі былі маларэальнымі. Аднак еўрапейцы не прыйшлі на дапамогу паўстанцам, як гэта зрабілі ваяры Рэчы Паспалітай, калі ў еўрапейскія краіны ўрынуліся арабскія заваёўнікі. У выніку спроба паўстанцаў на чале з Каліноўскім адрадзіць вольнае ад Расіі ВКЛ ў якасці дзяржавы для продкаў сучасных беларусаў скончылася паражэннем і вынішчэннем мясцовай эліты. Публічна бараніць гістарычную спадчыну ВКЛ для тагачасных беларусаў аказалася некаму.

Такой сітуацыяй і царскай палітыкай замоўчвання пра Літву скарысталіся продкі сучасных літоўцаў, якія называліся раней жамойтамі, аўкшайтамі (магчыма, што і літоўцамі). З дапамогай Прусіі яны манапалізавалі спадчыну ВКЛ разам з назвамі "Літва", "літоўцы". Царскія ўлады не перашкаджалі. Ім гэта было нават выгадна. Продкі сучасных беларусаў адхіляліся ад вялікай спадчыны. Гэта спадчына лакалізавалася на этнасе невялікім па колькасці і па займаемай ім тэрыторыі. Пазбаўленыя памяці пра сваё мінулае, беларусы лёгка потым станавіліся рускімі. Таму пачатковая перавага літоўскага нацыянальнага праекта над беларускім праектам абумоўлівалася, акрамя іншых прычын, і палітыкай Прусіі і Расіі. Яны, магчыма, спецыяльна і не падтрымлівалі літоўскі нацыянальны рух, але асабліва не шкодзілі яму. І найперш гэта адносілася да Прусіі.

Віленскі генерал-губернатар Міхаіл Мураўёў загадаў павесіць Кастуся Каліноўскага. Разам з ім ён засіліў і больш перспектыўны ліцвінскі праект стварэння сучаснай беларускай нацыі. Ход далейшых падзеяў, звязаных са стратай памяці пра ВКЛ, ужо адбываўся пасля Каліноўскага. Мой досвіт вывучэння гісторыі Беларусі пераконвае, што ў пераемнікаў Кастуся Каліноўскага не было ніякіх рэальных шанцаў ажыццявіць яго мары – адрадзіць ВКЛ і стаць ліцвінамі. Але пра тое, што беларусы былі ліцвінамі варта памятаць.

Пасля ўсяго сказанага можа і стала больш зразумелай постаць Кастуся Каліноўскага і яго роля ў барацьбе беларусаў за свабоду. Ён хацеў адрадзіць Вялікае Княства Літоўскае (ВКЛ) у якасці незалежнай ад Расіі дзяржавы для сучасных беларусаў і першым заявіў аб праве свайго народа на ВКЛ. Будучы рэалістам, ён хацеў зрабіць гэта ў саюзе з палякамі. Ён хацеў вярнуць да жыцця ўніяцтва ў якасці пануючай канфесіі для сваіх суайчыннікаў, бо ва ўмовах супрацьстаяння праваслаўнай і каталіцкай царкваў у яго краі ён першым зразумеў ролю ўніяцтва ў барацьбе свайго народа за самазахаванне. Ён стаяў ля вытокаў беларускай нацыі пад назвай "ліцвіны". Гэта было зусім лагічна з пункту гледжання натурафіласофіі, якой прытрымліваўся Кастусь Каліноўскі. Пасля падзей 1863 г. пройдзе яшчэ шмат гадоў, перш чым беларускі народ ўключыцца ў нацыянальнае жыццё. І ў гэтым быў трагізм яго першага нацыянальнага правадыра.

**Артыкул:** *Захар Шыбека*



## Спробаўзброеннага выступлення ў Віцебскайгуберні падчас паўстання 1863 года.

На тэрыторыі губерні супраць паўстанцаў выступіла больш прафесійнае, арганізаванае, лепш узброеннае і значнае па колькасці ўрадавае войска.

У снежні 1862 г. ваенным начальнікам паўстанцкіх сіл Літвы і Беларусі Літоўскі правінцыйны камітэт прызначыў Зыгмунда Серакоўскага [6, с.291]. Яго палітычныя погляды сфарміраваліся пад уплывам ідэй расійскай дэмакратыі. Гэта яскрава адлюстроўваў план дзеянняў З. Серакоўскага, які, між іншым, прадугледжваў:



*1.Неабходнасць захопа горада Дынабурга і яго фартэцы (кіраўнік - Лявон Плятар).*

*2.Захоп горада Горкі разам з паўстанцамі Віцебскай і Магілёўскай губерняў і сумесны паход у Казань праз расійскія губерні (кіраўнік - Людвіг Звяждоўскі).*

*3.Злучэнне паўстанцкіх сіл Ковенскай, Віленскай і часткі Віцебскай губерні з рэвалюцыянерамі Царства Польскага і іншаземным дэсантам.*

Для практычнай каардынацыі баявых дзеянняў на на тэрыторыі Віцебскай губерніі згодна з пунктамі стратэгічнага плана, на пачатку сакавіка 1863 года яна была падзелена на ваяводствы: Інфлянцкае і Віцебскае. Пра гэта сведчаць некаторыя дакументы паўстання, прама альбо ўскосна згадваючы існаванне кіруючых пасад пазначаных ваяводстваў.

На тэрыторыі першага сумесныя баявыя дзеянні павінны былі прадпрыняць паўстанцы Дынабургскага, Рэжыцкага, Люцынскага, Себежскага і Дрысенскага паветаў. Адна іх частка мусіла рушыць з арміяй З.Серакоўскага праз Ковенскую губерню ў Царства Польскае, другая - у Віленскую губерню для дапамогі мясцовым атрадам. Пры гэтым, вялікае значэнне ў Інфлянтах надавалася гораду Дынабургу з прычыны таго, што тут знаходзілася стратэгічна важная, добраўмацаваная фартэцыя са значным арсеналам зброі, а на яе ахову пакідалі невялікую колькасць войска.

У Віцебскім ваяводстве злучаная армія, колькасцю 6 брыгад паўстанцаў Веліжскага, Невельскага, Суражскага, Гарадоцкага, Полацкага, Лепельскага і Віцебскага паветаў, павінна была перайсці ў Магілеўскую губерню, ўз'яднацца з мясцовымі баявымі аддзеламі і перакінуцца на тэрыторыю расійскіх губерняў з мэтай узняць тут сялянскую рэвалюцыю, аднавіць становішча "времен пугачевщины". Справа ў наступным: паўстанцкі камітэт у перамовах з "Зямлей і Воляй" не атрымаў запэўнення ў тым, што "Зямля і Воля" будзе падымаць сялян на паўстанне ў той час, калі ўзнікне паўстанне на тэрыторыі Польшчы, Беларусі, Літвы і Украіны. Тады паўстанцкі ўрад вырашыў арганізаваць хваляванні сялян самастойна. Месцам паўстання было абрана гістарычнае Паволжжа, дзе вельмі моцнымі з'яўляліся традыцыі сялянскіх рухаў канца XVIII ст. Ажыццяўленне гэтага намеру даручылі Гераніму Кеневічу, які пасрэдствам М.Чарняка (член Казанскага камітэта "Зямлі і Волі") дамовіўся з Казанскім камітэтам аб тым, што ён, Кеневіч, пачне справу паўстання сялян і ў выпадку паспяховага выніку кіраўніцтва рухам пяройдзе ў рукі Казанскага камітэта. Аднак з прычыны здрады студэнта Глассана, рэвалюцыйныя намеры былі выкрыты ўрадам.

Усё скончылася выключна распаўсюджваннем на Паволжжы падложнага царскага маніфеста.

Практычныя захады па рэалізацыі плана Зыгмунда Серакоўскага былі прадпрыняты на пачатку красавіка 1863 г. З мэтай павелічэння вайсковага патэнцыялу ваяводскіх камітэтаў Віцебскай губерні цэнтральнае паўстанцкае кіраўніцтва накіравала сюды вайсковых камісараў. Так, у Інфлянты з намінацыяй на пасаду, выехаў Зыгмунд Буйніцкі, пасля яго пасады камісара і вайсковага начальніка ваяводства займалі адпаведна Юзаф Понсет і Ўладзіслаў Солтан, у Віцебскае і Магілеўскае ваяводствы - Людвіг Звяждоўскі. Яны ў сваю чаргу прызначылі павятовых вайсковых камісараў, якія непасрэдна павінны былі паскорыць і зрабіць эфектыўным працэс арганізацыі паўстанцкіх аддзелаў. Па архіўных дадзеных вядомы імены некаторых з іх (інфармацыя патрабуе далейшай верыфікацыі): Баляслаў Кульчыцкі - Себежскі, Дрысенскі; Эліадор Валодзька - Віцебскі, Міхал Рык - Лепельскі. Першымі баявыя дзеянні ў Віцебскай губерні пачалі паўстанцы Інфлянцкага ваяводства. 12 красавіка 1863 г. баявым аддзелам Лявона Плятэра ў ліку 30 чалавек у аблогу была ўзята дынабургская фартэцыя, а 13 красавіка ля мястэчка Краслаўскі (паблізу горада) разбіты абоз імперскага войска. Але неўзабаве гэтае паўстанцкае фарміраванне пры дапамозе сялян рассеялі расійскія гарнізонныя батальёны.

20 красавіка 1863 г. каля маёнтка Казлова Дрысенскага павета сфарміраваўся юхнавіцкі паўстанцкі аддзел пад камандаваннем братоў Альшэўскіх, мэтай якога было прайсці маршам праз Себежскі, Лепельскі і Дзісненскі паветы, адкуль рушыць на тэрыторыю Свянцянскага павета Віленскай губерні з тым, каб разгарнуць сумесную барацьбу з мясцовымі атрадамі. У складзе 60 чалавек 23 красавіка паўстанцы перайшлі ў Себежскі павет, дзе злучыліся з баявым аддзелам Б.Ф.Кульчыцкага. Аб'яднанае паўстанцкае фарміраванне налічвала 120 жаўнераў[7, ф.1430, воп.1, спр.31252, арк.10]. Арганізацыйна яно было падзелена на 2 аддзяленні (60 жаўнераў кожнае), якія ў сваю чаргу падзяляліся на дзесяткі. Конніца складалася з 16 вершнікаў, у рыштунак якіх уваходзілі: стрэльба, рэвальвер і шабля [7, ф.1430, воп.1, спр.31252, арк.10]. Да таго ж, аддзел меў абоз з 15 павозак зброі і фуражу. Увечары 23 красавіка паўстанцы сталі лагерам каля маёнтка Арловічы (Себежскі павет), дзе былі заўважаныя сялянскай вартай. Раніцай 24 красавіка земскі спраўнік у рапарце да камандуючага артылерыйскага палка прасіў дапамогі, спасылаючыся на вялікую колькасць "мятежников". У той жа дзень з горада Себежа выйшаў у Арловічы карны атрад колькасццю 250 чалавек. Неўзабаве тут адбыўся бой, у выніку якога выратавалася толькі 13 паўстанцаў. У гэтым баі загінуў і Б.Кульчыцкі. 13 чалавек, якія пазбеглі палону, паспрабавалі прабрацца ў літоўскія паветы. Але ў сутычцы ля мястэчка Барбілавічы 28 красавіка былі разбіты карным атрадам.



У красавіку 1863 г. баявы аддзел быў сфарміраваны ў Дзісненскім павеце павятовым начальнікам Генрыхам Дмахоўскім. У канцы красавіка аддзел перайшоў у Лепельскі павет, дзе злучыўся з мясцовымі паўстанцкімі фарміраваннямі. Адтуль паўстанцы мелі намер перайсці ў Віленскую губерню праз тэрыторыю Менскай. На пачатку мая аддзел Г.Дмахоўскага ўвайшоў у Барысаўскі павет, спыніўшыся спачатку ў Докшыцах, а потым у маёнтку Парэчча генерала Еэзфовіча. Менавіта па яго даносе ў маёнтак быў высланы атрад карнікаў. 14 траўня 1863 г. тут адбыўся бой, падчас якога паўстанцкі аддзел у колькасці 200 жаўнераў быў цалкам знішчаны.

Агульнае выступленне паўстанцкіх фарміраванняў Віцебскага і Магілеўскага ваяводстваў Зыгмунд Серакоўскі і Людвіг

Звяждоўскі прызначылі на 23-24 красавіка 1863 г. Адным з баявых аддзелаў Віцебшчыны, што меў намер увайсці ў склад злучанай паўстанцкай арміі Топара (мянушка Л.Звяждоўскага), быў аб'яднаны віцебска-аршанскі аддзел. Ен пачаў фарміравацца 20-21 красавіка 1863 г. з ліку членаў Віцебскага павятовага рэвалюцыйнага камітэта. 20 красавіка ў Віцебску на прыватнай кватэры пад кіраўніцтвам вайсковага камісара Віцебскага павета Эліадора Валодзькі адбыўся арганізацыйны сход. На ім кожны з удзельнікаў прынес прысягу на адданасць Цэнтральнаму камітэту, пасля чаго былі абраны дзесяцкія. 1-ы дзесятак узначаліў Анастасі Казлоўскі, 2-гі - Уладзіслаў Яц-Акрэйц і 3-ці - Стэфан Грынеўскі[11, ф.3046, воп.1, спр.1, арк.81-90]. Яны атрымалі загад 23 красавіка з'явіцца на месца збору аддзела ў лесе каля паштовай станцыі Дыманава. Мэту дзейнасці паўстанцаў вайсковы камісар вызначыў наступную - перайсці ў Аршанскі павет Магілеўскай губерні, там уз'яднацца з баявой групай Ігната Будзіловіча і разам распачаць барацьбу згодна з планам З.Серакоўскага. Увечары 22 красавіка два дзесятка У.Яц-Акрэйца і А.Казлоўскага выйшлі да станцыі Дыманава. Але па дарозе іх атакавала віцебская ўнутраная ахова. Восем паўстанцаў былі захоплены ў палон і размешчаны ў будынку станцыі. Ноччу У.Яц-Акрэйц зрабіў спробу вызваліць палонных і атакаваў станцыю. Яму супрацьстаялі 8 салдат унутранай аховы і сялянская ўзброеная варта. У выніку паўстанцкі дзесятак быў разбіты, а яго ўдзельнікі разам з камандзірам трапілі ў палон. Група А.Казлоўскага адышла ўглыб леса. 23 красавіка дзесятак С.Грынеўскага прыйшоў на месца збору, дзе без боя здаўся атраду казакаў, які выслалі на дапамогу ўрадаваму войску. У гэты ж дзень дзесятак А.Казлоўскага перайшоў у Аршанскі павет, у маёнтку Ордзеж ён уз'яднаўся з баявым аддзелам І.Будзіловіча і афіцэра Каткова. Паўстанцы ў колькасці каля 50 чалавек рушылі ў заштатны горад Бабінавічы, дзе зрабілі напад на хату гараднічага і забралі зброю. Далей яны накіраваліся да мястэчка Ліёзна. 25 красавіка паблізу маёнтка Пагосцішчы аддзел атакавалі часці Магілеўскага пяхотнага палка (50 салдат) ды 40 чалавек узброеных сялян. У выніку сутычкі паўстанцы страцілі 6 чалавек забітымі, 3 параненымі, 21 палоннымі і каля 15 патануўшымі. Камандзір аддзела І.Будзіловіч пазней быў растраляны ў Воршы. Паказальным у дзейнасці пазначанага паўстанцкага фарміравання з'яўляецца тое, што падчас пераходаў па маёнтках Віцебскага і Аршанскага паветаў яго ўдзельнікі па загадзе камандавання мусілі: "проходя по деревням, говорить крестьянам, чтобы они не давали правительству податей и рекрут и не служили барщины, за что им будет отдана земля; при этом не заставлять насильно идти крестьян в отряд…". Папросту паўстанцы бачылі рэальны настрой сялян да спраў паўстання і хацелі не дапусціць іх удзел на баку ўрада.

Згодна з планам З.Серакоўскага павінен быў дзейнічаць баявы аддзел Уладзіміра Дыка, які сфарміраваўся 23 красавіка ў Крывінскім лесе недалека ад мястэчка Бешанковічы Лепельскага павета ў колькасці 60 чалавек. Ад вайсковага камісара Лепельскага павета ен атрымаў загад (імя невядома): "А 9 гадзіне раніцы 24 красавіка 1863 г. захапіць м.Бешанковічы, забраць касу Храптовіча, а грошы раздаць сялянам. Памешчыкаў Рэйнса і Шпакоўскага павесіць як шпегаў, іх коней звесці. Затым пераправіцца на правы бераг Дзвіны, дзе на станцыі Курылавічы зрубіць тэлеграф; у мястэчку Бачэйкава захапіць пераправу, а пасля чаго далучыцца да вайсковага кіраўніка ўсходняй часткі Лепельскага павета, каб працягнуць далейшае прасоўванне на Усход". Але раніцай 24 красавіка паўстанцы былі атакаваны бешанковіцкай узброенай сельскай вартай і захоплены ў палон. Невялікая колькасць жаўнераў была разбіта 26 красавіка ў маентку Саннікі Лепельскага павета.

З мэтай падтрымаць баявыя дзеянні на тэрыторыі Мінскай губерні і захапіць горад Барысаў 14 красавіка 1863 г. у мястэчку Валасовічы (памежжа Лепельскага і Сенненскага паветаў) быў арганізаваны паўстанцкі аддзел пад камандаваннем Жоўтка ды Кучэўскага. Паміж 20 і 23 красавіка да яго далучылася група лепельскіх паўстанцаў на чале з П.Колбам. 24 красавіка разам яны прайшлі ў глыб Сенненскага павета, дзе адбылося новае аб'яднанне з мясцовым аддзелам Косткі. У выніку ўтварылася вялікае паўстанцкае фарміраванне лікам каля 200 чалавек. Але 6 мая яго авангард сутыкнуўся з

авангардам урадавага войска, 7 траўня паблізу маёнтка Падбярэззе адбыўся бой. І на гэты раз паўстанцы пацярпелі паражэнне.




У ваенных планах паўстанцкага кіраўніцтва, датычных Віцебскага ваяводства пазначалася таксама і неабходнасць захопа Полацка. Гэты горад меў даволі вялікае стратэгічнае значэнне з прычыны свайго выгоднага геаграфічнага становішча. Па-другое, ен мусіў выконваць функцыю затрымання імперскага войска ў выпадку паспяховых дзеянняў паўстанцаў на Віленшчыне, як, напрыклад, Дынабург у Інфлянтах. Сапраўды, пагроза захопу Полацка рэальна існавала. Гэта бачыла і мясцовая ўлада. Прыкладам, у першай палове красавіка 1863 г. ваенны начальнік "неспокойных уездов" генерал-лейтенант Длатоўскі ў рапарце Віленскаму генерал-губернатару паведамляў: "… большое количество мятежников из инфлянтских уездов движется в направлении Полоцка с целью его захвата". А 23 красавіка полацкі земскі спраўнік яшчэ раз нагадаў начальству: "в Полоцкий уезд направляется большой отряд из Виленской губернии для того, чтобы, объеденившись с местными шайками мятежников, вместе захватить Полоцк" [12, с.215]. Небяспечнасць з боку паўстанцаў заўважылі і мясцовыя сяляне, якія з пачаткам адкрытых баявых дзеянняў перыядычна прыходзілі да дырэктара Полацкага кадэцкага корпуса і прасілі яго выдаць ім зброю "для защиты от поляков". У другой палове красавіка 1863 г. у ваколіцах Полацка сапраўды дзейнічала некалькі паўстанцкіх аддзелаў: Паўльскі Отана Грэбніцкага (20 чалавек), Матырынскі Келда (40 чалавек), Бельскі С.Равінскага (50 чалавек) і іншыя. У такіх умовах мясцовая ўлада зрабіла неадкладныя захады на выпадак штурму горада: "Начальство кадетского корпуса приказало выкатить из корпусных ворот пушки на Парадную площадь и поставить их так, чтобы удержать под обстрелом Витебскую и Петербургскую улицы. Преподавателям артиллерии готовить картечь. Солдат служительской роты вооружить кадетскими ружьями. Крестьян близлежащих деревень тоже снадбить оружием" [2, с.351-352]. З прычыны таго, што горад у гэты час не меў гарнізона, селянін Жарыцкай грамады Кірыл Астаф'еў за ноч сабраў 300 чалавек і ўвайшоў у Полацк з мэтай узмацніць абарону [8, ф.1430, воп.1, спр.31402, арк.59]. Аднак неўзабаве пагроза аблогі горада была знята: у горад прыбылі рэзервовыя роты Галіцкага пехотнага палка і 42 Данскі казацкі полк [8,ф.1430, воп.1, спр.31402, арк.49]. У выніку перыядычных рэйдаў карных атрадаў па тэрыторыі Полацкага і сумежных паветаў асноўныя сілы паўстанцаў у перыяд з 24 красавіка да 15 мая былі рассеяны.

Заключэнне. Такім чынам, у перыяд баявых дзеянняў з красавіка да мая 1863 г. на тэрыторыі Віцебскай губерні было арганізавана каля 10 паўстанцкіх фарміраванняў, колькасцю ад 20 да 200 чалавек , якія дзейнічалі згодна з планам паўстання Зыгмунда Серакоўскага. Асноўнай мэтай узброенай барацьбы ў дадзеным рэгіёне было стварэнне аб'яднанай паўстанцкай арміі з рэвалюцыянераў Віцебшчыны і Магілёўшчыны, якая ў будучым мусіла стаць базай сялянскай рэвалюцыі ва ўласна вялікарасійскіх губернях. Да таго ж, ёй вырашаліся дзве стратэгічныя задачы:

адцягненне асноўных сіл імператарскай арміі ад падзей, якія адбываліся ў Царстве Польскім, а па-другое, аслабленне прэстыжу ідэй самадзяржаўя сярод сялянства ў межах усёй краіны (у прыватнасці тых губерняў, якія найбольш пацярпелі ад рэалізацыі палажэнняў 19 лютага 1861 года). Падчас баявых дзеянняў на тэрыторыі Віцебскай губерні паўстанцкім кіраўніцтвам не быў цалкам рэалізаваны план па прыцягненні мясцовых сялян да ўзброеннай барацьбы. У выніку склалася адваротная сітуацыя, калі значная частка сялян выступіла на баку афіцыйнага ўрада супраць паўстанцаў, яшчэ большая іх частка заняла пасіўную пазіцыю і толькі каля 6% сялянскай массы прымала з большасці пасрэдны ўдзел у паўстанні. Такая з'ява была выклікана дзвюмя асноўнымі прычынамі: па - першае, нават у праграмных дакументах цэнтральнага паўстанцкага кіраўніцтва не было зафіксавана рэальных юрыдычных, эканамічных і матэрыяльных гарантый вырашэння аграрнага пытання. Адсюль выцякае пэўная непаслядоўнасць і недарэчнасць дзеянняў мясцовай паўстанцкай адміністрацыі ў гэтым напрамку. Па-другое, папулісцкая палітыка царскага ўрада ў адносінах да мясцовага сялянства, як то: стварэнне сялянскіх вартаў, дазвол выкарыстоўваць вогнестрэльную зброю супраць паўстанцаў, адмена часоваабавязанага становішча і г.д., - дазволіла хутка схіліць гэты значны сацыяльны элемент на афіцыйны бок.

На тэрыторыі Віцебскай губерніі дзейнічала вялікая колькасць больш дробных паўстанцкіх аддзелаў, якія мусілі вырашаць лакальныя задачы: фарміраваць рэзерв для асноўных сіл паўстання, адцягваць увагу царскага войска ад барацьбы больш значных паўстанцкіх фарміраванняў і г.д. Аднак іх дзейнасць была слаба арганізаванай, а вельмі часта ўвогуле неакрэсленнай. Таму яны не адыгралі вялікай ролі падчас агульнага выступлення.

Такім чынам, няўдача баявых дзеянняў у Віцебскай губерні выклікана наступнымі прычынамі: на тэрыторыі губерні супраць паўстанцаў выступіла больш прафесійнае, арганізаванае, лепш узброеннае і значнае па колькасці ўрадавае войска, назіралася слабая сувязь віцебскіх паўстанцкіх аддзелаў з аддзеламі суседніх ваяводстваў, выкліканая недарэчным стаўленнем віленскага паўстанцкага цэнтра да спраў барацьбы ў Віцебскім ваяводстве, большасць камандзіраў і ўдзельнікаў паўстанцкіх фарміраванняў не мела прафесійнага досведу ў вайсковай справе і, нарэшце, сацыяльная база ўзброеннай барацьбы ў Віцебскай губерні была вельмі слабая, таму што асноўная масса сялян яе не падтрымала.

**Артыкул:** *Сяргей Глазырын*



## Постаці паўстання 1863-1864

### Міхал Цюндзявіцкі

Нарадзіўся 16 чэрвеня 1836 годзе ў Барысаўскім павеце. З шляхецкай сям'і, сын Камілі Багданавіч і Мэльхіёра Цюндзявіцкага, палкоўніка расейскай арміі, маршалка Барысаўскага павету і ўладальніка маёнтку Вільянова ў Барысаўскім павеце. Падчас паўстаньня служыў у 3 артылерыйскія батарэі 8 лёгкай брыгады.



У чэрвені 1863 году Менск абляцела вусьцішная вестка пра расстрэл царскімі карнікамі маладога афіцэра Міхала Цюндзявіцкага. Такой была цана беларускага слова і беларускай думкі, напіша пазьней адзін зь біёграфаў патрыёта. Галоўнай віною 27-гадовага «асабліва небясьпечнага злачынцы» сталася пашырэньне першай нелегальнай беларускай газэты «Мужыцкая праўда», выдаванай Кастусём Каліноўскім. Сьледзтва высьветліла, што ў карчме барысаўскай вёскі Камень Цюндзявіцкі прачытаў адозву паўстанцкага правадыра тамтэйшым сялянам.

Гэта быў першы сьмяротны вырак, выкананы ў тым змагарным годзе ў Менску. Усе тры месяцы, пакуль разглядалася справа, менчукі спадзяваліся на вызваленьне арыштанта, дарэчы выхаванца Пецярбурскага кадэцкага корпусу. Аднак начальнік «Северо-Западного края» Мураўёў, неўзабаве празваны «вешальнікам», рабіў стаўку на максымальную жорсткасьць. Расстрэл, які адбыўся ў раёне вуліцы Серпухаўскай (цяпер Валадарскага), меў паказальны характар і павінен быў запалохаць гарадзкое жыхарства.

Аднак каты пралічыліся. Каля сьвежай магілы адразу ж пачаліся штовечаровыя маніфэстацыі. Людзі атулялі месца пахаваньня з трох бакоў, і толькі з чацьвертага нэрвова пераступалі з нагі на нагу расейскія вартавыя. Надыходзіў момант, калі людзі ўкленчвалі. Малітвы зьмяняліся песьнямі, а затым чыё-небудзь дзіця зьбірала букеты прынесеных кветак і аздабляла імі магілу.

Жандарскія агенты ўсіх прысутных перапісвалі. Удзел у мірных пратэстах служыў падставай для арышту, але маніфэстацыі не спыняліся, і ўлады мусілі перазахаваць цела расстралянага інсургента.

Празь некалькі дзесяцігодзьдзяў, у 1906-м, іншы прадстаўнік роду Цюндзявіцкіх — Віктар выдасьць па-беларуску кніжку «Аб чым сёньня гамоняць у нас на Беларусі», увесь наклад якой будзе сканфіскаваны.



## Як лавілі Каліноўскага?

З'яўленне напярэдадні Паўстання ў 1862 годзе "брошюр возмутительного содержания" на Гарадзеншчыне не засталося без увагі паліцыі…



Кастрычнік 1862 года. Каля пяці гадзін папоўдні ў вёсцы Шайпякі на ваўкавыскім паштовым тракце з'явілася брычка, запрэжаная парай коней. Акрамя фурмана ў брычцы пасажыр, апрануты ў авечае футра, пакрытае сукном, з вялікім чорным каўнерам. Такое футра ў той час было уласціва сялянам. Сярэдняга росту брунэт з чорнымі вусамі аглядаў ваколіцы з-пад казырка фуражкі з зорачкай Грамадзянскага ведамства. Гадкоў хіба 35-36...

Менавіта так апісвалі сяляне Вікенція Канстанціна Каліноўскага на размове з Прыставам 2-га стану Каллсяпекіным. Фурмана ж апісалі даволі сціпла: "белокурый, усов русых".

Мясцовыя чыноўнікі хутка даведаліся, што менавіта з гэтай брычкі, "злонамеренные люди" ад некаторага часу пачалі падкідваць сялянам "брошюры возмутительного содержания для чтения под заглавием Мужытская правда". Сапраўды, чытаючыя гэтак званыя "брошюры" ў сялян маглі ўзнікнуць "разнородные мысли".

Праз некаторы час сведкаў гэтай падзеі, сялян: Марціна Мікуцына, Антона Агіевіча і Міхала Лукашэвіча запрасіў да сябе Прыстаў 2-га стану Каллсяпекін для размовы і высвятлення знешняга выгляду фурмана і пасажыра, якія

раскідвалі скруткі з другім нумарам “Мужыцкай праўды”.
Высветлілася, што сведкі былі непісьменныя, і падабраўшы скруткі пачалі звяртацца “к грамотным своим собратьям прочитывать”. Пасля кароткай размовы сяляне пагадзіліся апазнаць пасажыра, калі яго ім “представят”.

***Затрымаць распаўсюдніка***

Пачаліся следчыя мерапрыемствы, кажучы пасучаснаму. Каллсяпекін адразу звярнуўся ў Ружанскую паштовую станцыю для навядзення даведак аб тым, хто ж арандаваў фурманку 7 кастрычніка. Арандатарам апынуўся нехта “Дворянин Викенти Калиновский”. Фурмана Каллсяпекін дапытаў асабіста.
Рапарт з пазнакай “Секретно” быў накіраваны гродзенскаму губернатару Фон-Галеру. Аб гэтай падзеі Фон-Галер паведаміў у Вільню – таму самаму сумнавядомаму генерал-губернатару Мураўёву, альбо Мураўёву-вешальніку, які сёння ў вачах некаторых “беларускіх” гісторыкаў стаў раптам “талантливым администратором”…
Прачытаўшы “брошюру”, Мураўёў адразу пачаў рассылаць па ўсіх паліцэйскіх аддзяленнях Віленшчыны і Гарадзеншчыны зашыфраваныя лісты, з патрабаваннем затрымаць распаўсюдніка.
Начальнік корпусу жандармаў Вітт рапартуе гродзенскаму губернатару, што 7 лістапада родная вёска Каліноўскага Якушоўка (ускраек Белавежскай пушчы, сённяшні Свіслацкі р-н) знаходзіцца пад сакрэтным наглядам. Але ані ў вёсцы, ані на ўездзе Канстанцін не быў заўважаны. Паліцыя ў разгубленасці: “а между тем доходят ко мне слухи, что он уже пойман… и следует-ли за поимкою Калиновского продолжать по уезду наблюдать”.

***Кайнеўскі? Кайноўскі? Каліноўскі?***

Да ўсяго іншага пачалася блытаніна з імем ды прозвішчам пасажыра. Калі расшыфраваць ліст Мураўёва, то выходзіць, што трэба затрымаць …Кайнеўскага альбо Кайноўскага, але ніяк не Каліноўскага.
Яшчэ больш заблытаў справу Ігнаці Казлоўскі – ксёндз ды прыяцель Кастуся, з якім ён ехаў у Гродна. 9 лістапада Вітту ксёндз Ігнаці паведаміў, што імя яго сябра не Вікенцій, як сцвярджаў Каллсяпекін, а Канстанцін. Ксёндз далей блытае следчых, паведамляючы, што ў той дзень ён разам з Каліноўскім ехаў у Гродна, але даехаў Канстанцін толькі да Індуры, дзе і застаўся.
Следства ў тупіку. З Вільні патрабуюць затрымаць Кайноўскага, Каллсяпекін паведамляе, што трэба лавіць Вікенція Каліноўскага, ксёндз кажа пра Каліноўскага, але Канстанціна… ды ўказвае супрацьлеглы напрамак для пошуку. У выніку Вітту даводзіцца паведаміць гродзенскаму генерал-губернатару Фон-Галеру, што раскідваў скруткі не Каліноўскі, а зусім іншая асоба.
Будучы лідар паўстання заблытаў следства і выйшаў з гульні пераможцам!
І нарэшце… 16 красавіка 1863 года ў вёсцы Шайпякі ізноў з’яўляецца паштовая брычка. Ізноў невядомы чалавек раскідвае таямнічыя скруткі. Гэтым разам аркушы з “Мужыцкай праўдай №3”. Ужо трэці раз гутарыць Яська-гаспадар з-пад Вільні з мужыкамі. Справа аб “Брошюрах возмутительного содержания” адноўленая. На Каліноўскага пачынаецца сапраўдне паляванне…

**Артыкул:** *Алеся Кіркевіча і Алеся Кайрыса*



# Кроў, пот і слёзы, або Партызанка ў 1863

Паўстанне 1863 года гэта не толькі герaічная смерць Каліноўскага ці бітва пад Мілавідамі. Штодзённая "руціна" паўстанцкага жыцця, без цэнзуры і штампаў – дагэтуль малавывучаны аспект нашай гісторыі.

Пачатак ліпеня 1863, нядзеля, раніца. Пачынаецца служба ў царкве ў Рудавах. Немалады святар шэпча малітву над тоўстым фаліянтам, безбароды дыякан рыхтуе ладан для кадзіла, людзі – абмяркоўваюць апошнія навіны: надвор'е, смерць сваяка, прыплод скаціны ды… узброеных людзей, якіх нядаўна бачылі ў лесе.



Раптам дзверы адчыняюцца. У храм адзін за адным уваходзяць каля 30 узброеных хлопцаў, са стрэльбамі за плячыма ды крамянёвымі пісталетамі за пасамі. У руках у некаторых – пацёртыя канфедэраткі са срэбранымі гербамі Рэчы Паспалітай.

Перахрысціўшыся разыходзяцца паміж лаваў, нехта запальвае свечку. "Во імя Отца і Сына і Святаго Духа…" – крыху разгублена пачынае бацюшка. Некалькі інсургентаў па загадзе цікуюць звонку, узяўшы аўса для коней. Па сканчэнні службы кіраўнік атраду папросіць яшчэ паставіць для сваіх байцоў самавар…

Дадзены эпізод падрабязна апісаны ў адным са службовых рапартаў мясцовага чыноўніка гродзенскаму генерал-губернатару фон Галеру. Зайсці ў вёску, адстаяць усю службу ды яшчэ адпачыць пры самавары – досыць рызыкоўны ўчынак, улічваючы, што казацкія раз'езды маглі тут з'явіцца ў любы час. Ды і з мясцовых мог здаць нехта.

Адначасова дадзены выпадак сведчыць акурат пра даверлівыя адносіны паміж паўстанцамі ды вяскоўцамі, што абвяргае міф аб "шляхецкім" паўстанні, якое было недаспадобы "хлопам".

Каля 8 раніцы ў гэты ж дзень паўстанцы прыбылі ва ўрочышча Ельнік да стралка Казіміра Осіпава Тамашэвіча. Правялі рэквізіцыю, а затым прымусілі правесці да ўрочышча Бабіна да стралка Грыгорыя Хоха. Адтуль, скарыстаўшыся момантам, Тамашэвічу ўдалося ўцячы...

Завітвалі мяцежнікі і да памешчыкаў. 14 ліпеня 1863 года, каля 2 гадзін ночы, у двор маёнтка пана Аліевіча прыйшлі каля 40 інсургентаў ды абудзілі прыказчыка Астраўха. Пачалі патрабаваць гарэлку, але той ім адмовіў. Тады паўстанцы самі зайшлі ў памяшканне для працоўных, узялі 4 хлібы і зніклі. Заўважым, што нават у выніку адмовы мяцежнікі нікога не забілі, а маёнтак не спалілі – справы паміж мясцовымі часцей за ўсё вырашаліся без крыві.

Вось яшчэ адзін тыповы выпадак: 15 ліпеня 1863 года каля 30 ўзброеных інсургентаў прыбылі ў маёнтак Заблоць (знаходзіўся паміж вёскамі Путрышкі і Русота), запатрабавалі вядро вады, а таксама ўзялі паўфунта мыла – даволі сціплы набытак, лічы самае неабходнае.

Здараліся, аднак, і больш брутальныя выпадкі. 15 траўня 1863 года з вёскі Шушы ў маёнтак Пагарэнда (хутчэй за ўсё Пагараны, недалёка ад Свіслачы), які належаў Івану Умновічу (прозвішча ў справе напісана неразборліва) і яго сыну Якаву, які з'яўляўся памочнікам стралка, уначы заявіўся атрад інсургентаў з косамі пад кіраўніцтвам невядомага капітана і прабыў там двое сутак.

За гэты час капітан двойчы загадваў павесіць гаспадара, якому было 67 гадоў. Старога дапытваліся, куды ён схаваў нейкага Гарбачэўскага, пра якога гаспадар нічога не ведаў. Затым яго прывязалі да дрэва, імітуючы падрыхтоўку да павешання, але пасля запалохванняў адпусцілі.

Капітан таксама дапытваў астатніх чальцоў сям'і. Загадваў біць: спачатку нагайкай, потым розгамі. Стралецкі селянін Ульян атрымаў 200 удараў. Тое самае было і з Якавам, памочнікам стралка і сынам гаспадара маёнтка, які атрымаў каля 400 удараў. У хуткім часе ў маёнтак былі накіраваны расейскія салдаты…

Сваю ролю тут верагодна адыграў факт прыналежнасці сына Якава да расейскай адміністрацыі. Пры гэтым незразумелай з кантэксту застаецца гісторыя з Гарбачэўскім, які быў так патрэбны капітану інсургентаў. Хто гэта наогул? Паўстанец? Акупант? Здраднік?

Да таго ж з рапарту відаць, што атрад быў узброены косамі, то бок складаўся з сялян. Магчыма, нехта з іх за часамі прыгону належыў Івану Міхайлавічу, які мог паводзіць сябе як дэспат у стасунках са сваімі "мужыкамі" ды іх сем'ямі. Вядома, напрыклад, што там-сям на Заходнім Палессі ў XIX ст. да адмены прыгону яшчэ дзейнічала "права першай ночы"…



Са сваімі апанентамі паўстанцы амаль заўсёды дзейнічалі жорстка. Тых жа, хто спачуваў справе паўстання, "лясныя браты" абаранялі. Так, 4 ліпеня 1863 года атрад колькасцю каля 30 чалавек прыйшоў у валаснное ўпраўленне Луненскай воласці (сучаснае Лунна, недалёка ад Скідзеля) і напаў на старшыню Івана Манішку, бо той загадаў арыштаваць селяніна Івана Алізара, які заклікаў сялян да невыконвання загадаў мясцовых улад. Старшыню збілі і павезлі ў невядомым напрамку.

Дзеянні партызанаў 1863 года нельга ацэньваць з пункту гледжання крымінальнага права таго часу альбо бытавой маралі. Паўстанцы жылі ва ўмовах вайны, няхай і не пазіцыйнай, без вызначанай лініі фронту ды акопаў, але таксама з ахвярамі ды штодзённым рызыкам.

Адносіны да людзей у такой сітуацыі вызначаюцца простым алгарытмам "свой/чужы". З гэтай прычыны спробы прадставіць інсургентаў 1863 года "бандытамі", як з боку тагачаснай царскай адміністрацыі, так і сучаснымі разумнікамі, з'яўляюцца не больш як прапагандысцкім ходам.

У рэшце рэшт, нямецкая акупацыйная адміністрацыя савецкіх партызан (так шанаваных сёння ў РБ), "краёўцаў" альбо паўстанцаў УПА, інакш як "бандытамі" таксама не называла. Пры гэтым, існаванне падпольнай арміі, са сваёй іерархіяй, структурай, дысцыплінай і, галоўнае, ідэяй – аўтаматычна пераносіць яе байцоў з разраду "крымінальнікаў" да камбатантаў.

Не будзем забывацца таксама на той факт, што беларускую нацыянальную ідэю, з усіх вышэйпералічаных партызанскіх фармаванняў, падтрымлівалі на нашых землях выключна паўстанцы Каліноўскага.

**Артыкул:** *Алесь Кіркевіч, Алесь Кайрыс*



# Ідэёвая лучнасьць між актам 25 сакавіка 1918 г. і працай К. Каліноўскага ў 1862–1864 гг.

Словамі, якія зьмешчаны на пачатку гэтай працы, слаўны народны барацьбіт наш Кастусь Каліноўскі разьвітваўся зь беларускім народам у адным з прадсьмертных сваіх лістоў, пісаных у астрозе незадоўга перад сваей сьмерцяй1. У пісьме гэтым, як бачым, Каліноўскі жадае, каб беларускі народ, за які хутка меў ён злажыць жыцьцё сваё, помніў аб ім, за што з свайго боку прыракае такжа аб гэтым народзе помніць і нават адгукнуцца з таго сьвету.

Прадсьмертную волю вялікага барацьбіта нашага, сьвяткуючы ўрачыста гэты юбілей, спаўняем як належыцца. Сяньня сьвяткуем 15-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, а разам з гэтым і 70-я ўгодкі першай беларускай часопісі "Мужыцкая праўда", рэдактарам і выдаўцом якой быў Кастусь Каліноўскі2. Лучачы гэтыя два юбілеі ў адзін і разам іх сяньня сьвяткуючы, ні аднаго зь іх не памяншаем, а, наадварот, павялічваем, бо

дапаўняем. Тое ўсё, чаго сваей працай агулам, а прадусім "Мужыцкай праўдай", а также і сьмерцяй сваей даканаў К. Каліноўскі для беларускага народу семдзесят гадоў таму, змагаючыся за волю і долю гэтага народу, — акт абвешчаньня незалежнасьці Беларусі 25 сакавіка 1918 г. падабраў, згарнуў у цэласьць, прыкрасіў, дапоўніў і выразіў як яўную — ужо сучасную — волю беларускага народу да вольнага і самастойнага жыцьця. Словам, зярнё, якое на беларускай грамадзка-палітычнай ніве пасеяў Каліноўскі, акт 25 сакавіка 1918 г. зжаў, карыстаючыся пладом гэнага зярняці для сяўбы далейшай. Як бачым, сапраўды між пятнаццатымі ўгодкамі абвешчаньня Беларусі незалежнай і між 70-мі ўгодкамі "Мужыцкай праўды" існуе ідэёвая лучнасьць.

"Калі ты мяне ўспомніш, — кажа Каліноўскі да беларускага народу, — я да цябе з таго сьвету адазвуся". Вось жа народ беларускі аб вялікім барацьбіце сваім сапраўды ўспомніў і сапраўды да яго адазваўся. Сталася гэта, аднак, пасьля цэлага раду дзясяткаў гадоў пасьля мучаніцкай сьмерці яго. У 1864 г. Каліноўскі павіс на шыбеніцы, а народ, за які ён злажыў сябе ў ахвяру на алтары Праўды, далей гібеў у няволі культурнай, эканамічна-сацыяльнай і палітычнай. Няволю гэту над беларускім народам трымалі крэпка суседзі нашы з захаду і ўсходу. На народ наш глядзелі яны выключна толькі праз акуляры свайго народнага самалюбства. Усё тое, што народ наш меў, суседзі гэтыя, выпераджаючы адны адных, або сваім лічылі, або заціралі, зацямнялі і пускалі ў няпамяць. Ішло ім аб тое, каб даказаць, што беларускі народ — гэта "искони русский народ" або што гэта "od wieków polski lud". Такім чынам, беларускі народ для палякаў і для расейцаў у гісторыі стаўся рэчай, стаўся карысным матэрыялам дзеля польскай і расейскай культураў. У гэткіх варунках паказаць праўдзівы свой твар, загаварыць аб сабе сваей мовай, бараніць сваю індывідуальнасьць было нялёгка. Бо калі народ гэты і прагаварваў аб сабе слова праўды, калі выступаў у абарону сябе праз слаўных сыноў сваіх, як Каліноўскі, то тыя ж суседзі голас гэты глушылі або нават, расходзячыся з праўдай, прадстаўлялі яго ў сваім, карысным сабе сьвятле. Вось жа ў гісторыі польскай і расейскай Каліноўскі прадстаўлены звычайна або як "самолюбивый безумный мятежник", або як "polski bohater narodowy o krańcowych nieco poglądach". Аднак польскія і расейскія гісторыкі, па-свойму малюючы Каліноўскага, часта мімавольна або не прыдаючы значэньня пэўным фактам, аб ім многа гавораць чысьцюсенькай праўды.




Вось жа належна прааналізаваць усе тыя дакумэнты, якія адносяцца да асобы Каліноўскага, а такжа выбраць з успамінаў аб ім і апрацаваньняў адпаведныя факты і належнае даць ім асьвятленьне, належа прадусім да гісторыкаў беларускіх, а такжа і літоўскіх, бо Каліноўскі землі гэтых народаў разважаў як адно цэлае. Так яно і сталася. Першым паказаў нам праўдзівы твар Каліноўскага літоўскі прафэсар А. Янулайціс3. Гэта ён зьвярнуў увагу на тое, што між паўстанцамі 1863 г., якіх звычайна залічалі да палякаў, былі сапраўдныя народныя героі літоўскія (кс. А. Мацкевіч), а такжа і беларускія, як Каліноўскі, якія ішлі на паўстаньне проціў цара, проціў паншчыны, сьнілі сны аб волі і долі народу літоўскага і беларускага і змагаліся за свайго роду палітычную самастойнасьць гэтых народаў, за самастойнасьць свайго краю.

Прыйшоў урэшце также час, калі, як бы спаўняючы прадсьмертную волю Каліноўскага, успомніла аб ім і беларуская навука. Беларускія вучоныя, як праф. Ігнатоўскі4, зь няпамяці, з шматлетніх плесьняў на сьвятло дзённае пачалі выдабываць слаўную асобу нашага народнага героя Каліноўскага. Дзякуючы беларускай навуцы, асоба яго стала папулярызавацца, весткі аб ім сталі пранікаць у народныя гушчы, асабліва ж у душы беларускай моладзі. У Менску ў беларускай сцэнічнай літаратуры паявілася нават драма "Кастусь Каліноўскі", якая некалькі гадоў таму была ўлюбёнай п'есай Менскага беларускага тэатру. Словам, памяць аб слаўным Каліноўскім сапраўды аджыла ў нас. Зацікаўленьне ім паўстала значнае, асабліва ў гэтых гадох, калі выпалі 70-я ўгодкі "Мужыцкай праўды" і калі ў будучым годзе прыпадаюць также 70-я ўгодкі казьні ягонай. Сяньня ў беларусаў аб Каліноўскім, калі яшчэ не стварылася цалком, дык творыцца — нават у навуцы — легенда як аб барацьбіце за незалежнасьць Беларусі, і прытым у сучасным разуменьні.



Так, шмат у гэтым праўды, але да праўды закрадаецца крыха і няпраўды, калі мы мадэрнізуем гісторыю і сваіх сапраўдных народных герояў з-прад 70 гадоў змушаем гаварыць цяперашнім нашым беларускім палітычным языком і прыпісваем ім нашыя сучасныя ідэалы. Дык, як бачым, сапраўднае месца Каліноўскага ў навуцы належна не абазначана дагэтуль ня толькі ў палякаў і расейцаў, што ёсць цалком натуральным, але также і ў нас, беларусаў. Даканаць гэтага павінна навука беларуская.

Так, Каліноўскі — гэта сапраўдны беларускі самастойнік, але свайго часу, і маладой беларускай навуцы належа спакойна і вытрывала разьясьніць сутнасьць гэтай яго самастойніцкай ідэі, яе граніцы, тэрыторыю, на якой ідэалы свае жадаў зьдзейсьніць, і, урэшце, варункі, у якіх ён жыў і працаваў, бо за семдзесят гадоў, якія аддзяляюць нас ад таго часу, калі жыў Каліноўскі, у жыцьці нашага народу, а также і ў нашым паняцьці, шмат што зьмянілася.

Вось жа, маючы гэта ўсё на памяці, насколькі пазваляюць мне цесныя рамкі гэтага рэфэрату і ўрачыстасьць сяньняшняга дня, складаю я аб Каліноўскім і яго працы свае ўвагі. І калі б гэта скромная праца мая ў беларускай — ды і небеларускай — навуцы выклікала большае зацікаўленьне гэнай слаўнай асобай, паглыбляючы аб ёй веду, і калі б узбудзіла

ўдзячнасьць для яе ў нашым народзе, я ўважаў бы, што дапяў сваей мэты.

К. Каліноўскі жыў у тым часе, калі Беларусь пасьля даўгавечнай сваей сьпячкі скідала зь сябе няволю паншчыны і прабуджалася да новага жыцьця. Вясна рамантызму лунала над галавой Беларусі, а зь ім прыходзіла да беларускага народу і ягонае нацыянальнае адраджэньне.

У Эўропе панаваў тады рамантызм у літаратуры і ў навуцы, які даходзіў і да нас. Зярняты нацыянальных ідэяў, зроджаных рамантызмам, дзякуючы стычнасьці з Эўропай асьвечаных клясаў нашага краю, дакаціліся і да беларусаў. Дасканальным праваднікам гэтых ідэяў быў да свайго закрыцьця (1832 г.) Віленскі ўнівэрсытэт.

З муроў гэтага ж унівэрсытэту або пад яго ўплывам паявіліся беларускія рамантыкі, паэты-пісьменьнікі Ян Баршчэўскі, А. Рыпінскі, Ян Чэчат, а такжа і бацька беларускага краснага пісьменства Вінцук Дунін-Марцінкевіч.

З муроў гэтага ўнівэрсытэту паявіліся такжа беларускія рамантыкі і ў навуцы, якія дасьледвалі беларускую гісторыю, права, мову. Да гэткіх належаць уніяцкія сьвяшчэньнікі праф. М. Бабраўскі і Платон Сасноўскі, а такжа праф. Ігнат Даніловіч, Я. Ярашэвіч і інш.

Будзіліся тады такжа да нацыянальнага жыцьця і братнія народы літоўскі і ўкраінскі. Сярод літоўскага народу працаваў тады С. Даўкантас (памёр у 1864 г.), слаўны патрыёт і пісьменьнік, біскуп М. Валанчус (памёр у 1875 г.), Івінскіс (памёр у 1883 г.) і інш. Узноў жа ўкраінскі народ будзіў несьмяротны Шаўчэнка (памёр у 1861 г.), іграючы на кобзе прарочыя песьні яму.

Панаваў тады ў Эўропе і рамантызм палітычны. Палова XIX в. — гэта час палітычных нацыяналізмаў, час народных рэвалюцыяў, час будаваньня нацыянальных дзяржаў і тварэньня нацыянальных культураў, агулам кажучы — гэта час нарадавольства і нарадаслаўя. Ідэалы гэтыя знаходзілі жывы адгалосак і на нашых землях, дзе панавала царская расейская ўлада, а такжа ідэі гэныя знаходзілі жывы адгалосак і на землях этнаграфічна расейскіх. Паклоньнікі гэтых ідэалаў, сыны Расеі Герцэн, Бакунін, Агароў і інш. за вернасьць гэтым ідэалам былі змушаны пакінуць сваю бацькаўшчыну і скрывацца ад царскай паліцыі за граніцай. Аднак працы дзеля асвабаджэньня ад царскага абсалютызму Расеі, а зь ёй разам і ўсіх тых народаў, што пад Расеяй знаходзіліся, гэныя слаўныя барацьбіты-эмігранты не пакідалі і на чужыне. У 1858–1861 гг. Герцэн выдае ў Лёндане свой слаўны "Колокол", нарадавольскі гул якога нясецца па ўсей Расеі. Часопісь гэта на сваіх старонках шырока і адкрыта разьвівае ідэю вызваленьня народаў, што знаходзіліся пад Расеяй, і збудаваньня ім вольнага жыцьця.

Вось жа ў "Колоколе" выраблялася ідэалёгія палітычнай самастойнасьці ўсіх тых народаў, якія самастойнасьці гэтай зажадалі б. І так Бакунін піша: "Мы любім толькі народ, верым у яго і хочам таго, чаго ён хоча. Чаго, аднак, трэба народу? Паўторым за "Колоколом": зямлі, і волі, і вольнасьці".

Бакунін у ўспомненай працы пайменна вылічае ўсе народы царскай Расеі: беларусаў, палякаў, украінцаў, літвінаў, фінаў, латышоў і інш., і прызнае ім права на самастойнасьць у фэдэрацыйнай лучнасьці між сабой або і права на поўную незалежнасьць. Бакунін дамагаецца, каб кожнаму народу была дана свабода ўладзіць лёс свой палітычны, як ён толькі захоча. Гэткіх самых паглядаў трымаўся і Герцэн, выказваючы іх, аднак, больш спакойна і асьцярожна. Фэдэрацыю яны разумелі як вольны саюз вольных народаў.

Праз "Колокол" і іншыя друкі слаўных расейскіх нарадавольцаў падобныя ідэі даходзілі, як мы сказалі, і да Беларусі, Літвы, Украіны і Польшчы, прадусім да студэнцкай моладзі гэтых краёў, якая студыявала пераважна ў Пецярбургу і Маскве, будзячы яе да новага жыцьця.

Думкі палякаў аб паўстаньні іх проціў Расеі і Бакунін, і Герцэн падтрымлівалі ўсей душой. Яны верылі, што з паўстаньнем шляхты паўстане такжа і народ польскі, а зь ім разам паўстануць такжа і народы беларускі, літоўскі і ўкраінскі, і што такім чынам у значнай меры збудуцца іх нарадавольскія, адчасьці самастойніцкія, фэдэрацыйныя ідэалы.

Бакунін верыў, што "польскае паўстаньне сапраўды падыме народы бyўшага Вялікага Княства Літоўскага да самаазначэньня ў кірунку поўнай незалежнасьці або прынамсі да фэдэрацыі". У палякаў, аднак, ці лепш — у буйной шляхты, нацыяналізм польскі ўзяў верх, і яны паднялі паўстаньне толькі дзеля

сябе, Беларусь, Літву і Украіну разумеючы як складовыя часткі адной суцэльнай Польшчы. Факт гэты сымпатыі расейскай дэмакратыі да польскага паўстаньня астудзіў цалком. Лепшыя, аднак, людзі Беларусі — як Каліноўскі, і Літвы — як кс. А. Мацкевіч, пры помачы польскага паўстаньня, нават і пры помачы паўстаньня шляхоцкага, не пакідалі далей надзеі ўзварушыць свае народы такжа да паўстаньня, аднак за іх уласную волю і долю.

Але слаўныя гэныя расейскія дэмакраты мелі проціў польскага паўстаньня і засьцярогі такжа характару сацыяльнага. Яны былі проціў шляхоцкай Польшчы, а стаялі за Польшчу сялянскую. "Аб'явіце Польшчу сялянскай, а тады многа з плямён славянскіх, а бадай усе, за вамі пойдуць", — пісаў Бакунін.

Паводле расейскіх дэмакратаў, Польшча павінна быць не шляхоцкай і не адзінай суцэльнай дзяржавай у межах 1774 г., а павінна стварыць зь земляў даўнейшай Польшчы саюз вольных народаў, злучаных вольнай фэдэрацыяй. Да фэдэрацыі гэтай мела далучыцца такжа і Расея, бо і яна мела быць уцягнута ў паўстаньне проціў царызму, імпэрыялізму і процiў сацыяльнага ўціску. Але расейскаму народу такжа трэба было паказаць, чаму яны маюць ісьці разам з палякамі. "Калі ў Расеі на вашых сьцягох ня ўбачаць падзелу зямлі і волі правінцыям, — кажа Бакунін, — то наш вам спагад нічога не паможа, а нас загубіць".

Вось жа вялікія гэтыя ідэі мелі сільны ўплыў і на беларускую дэмакратычную інтэлігенцыю. Палітычны рамантызм сапраўды лунаў над беларускай старонкай у форме свайго роду незалежніцкіх ідэяў.

Пад яго павевам ідэя гэта расла, крэпла і прыбірала штораз выразьнейшыя формы. Урэшце ў другой палове XIX в. беларуская нацыянальная ідэя пачала строіцца ў выразна сацыяльна-палітычную беларуска-народную вопратку. Быў гэта сапраўды беларускі палітычны рамантызм, на чале якога стаў тварэц ягоны на Беларусі, наш слаўны Кастусь Каліноўскі, рэдактар і выдавец першай беларускай часопісі "Мужыцкая праўда".



# Дудзічы ў час паўстання 1863 года

Паўстанне 1863 года таксама закранула Дудзічы. Аб гэтым мы даведаліся з архіўнай справы "Хадайніцтва сялян вёскі Дудзічы Ігуменскага павета аб прызнанні памешчыка Ельскага недатычным да паўстання 1863 г"[1] .

8 лютага 1864 г. сяляне Дудзіч, Бялькевіч і Грэбеня пішуць Мінскаму грамадзянскаму губернатару, што 2 тыдні назад па распараджэнні начальства быў арыштаваны памешчык маёнтка Дудзічы Міхаіл Ельскі "за нейкае палітычнае падазрэнне".




Сяляне пішуць, што ведаюць свайго памешчыка і ўпэўнены, што ён ні да якіх супрацьзаконных справаў не мог належаць, бо ён чалавек артыстычных схільнасцей і заняткаў. "Адчуваючы глыбокую павагу да яго за добрасумленныя, паважлівыя адносіны да нас, на агульным поўным сходзе мы вырашылі звярнуцца да Вашай Светласці. Просім пачуць нашу пакорлівую і чыстасардэчную просьбу. Мы – верныя слугі Нашага Айца Імператара, не станем для яго хцівымі, ужываючы на зло той давер, якім Айцец Наш нас надзяліў." Сяляне Дудзіцкай воласці – 27 сельскіх гаспадароў - даручылі падаць гэта прашэнне асабіста ў рукі Мінскаму губернатару выбраным сярод іх дудзіцкаму валасному старшыну Петрыку Шлопаку, сельскаму старасту Янку Бяляцкаму, бяльковіцкаму старасту Тодару Бязручку, а пісаў тое хадайніцтва пісар Пятрок Шчупак.

У той жа дзень Мінскі грамадзянскі губернатар Кажэўнікаў звяртаецца да ваеннага начальніка Ігуменскага павета палкоўніка Сахарава і просіць як мага хутчэй даць

падрабязныя звесткі, чаму арыштаваны памешчык Ельскі і дзе ён знаходзіцца зараз.
Праз 3 дні Сахараў у сваім рапарце даносіць, што Міхаіл Ельскі арыштаваны па распараджэнні Мінскага ваеннага губернатара, знаходзіцца зараз у астрозе ў Ігумне.
Далей у справе ёсць пісьмо часовага ваеннага губернатара Мінскай губерні генерал-лейтэнанта Забалоцкага грамадзянскаму Мінскаму губернатару ад 14 сакавіка. Ён піша, што было праведзена следства, у ходзе якога 20 чалавек пад прысягаю паказалі, што Ельскі ўдзелу ў мецяжы не прымаў і таму яго можна вызваліць ад праследавання па гэтай справе.
Вось так шчасліва закончылася для гаспадара Дудзіч гэтае здарэнне. Падзеі ў Дудзічах вельмі паказальныя. Тут відаць, што галоўнымі ўдзельнікамі паўстання 1863 года была шляхта, часцей дробная, але бывалі ў гэтай ролі і буйныя памешчыкі. Сяляне ж былі апорай уладаў у барацьбе супраць паўстанцаў. З сялянаў фарміравалі сельскія каравулы, якія падпільноўвалі і лавілі паўстанцаў, здавалі іх уладам. Сялян заахвочвалі да гэтай справы грашыма, а таксама аддаючы ім маёмасць асуджаных. Сялянам улады дэманстратыўна “давяралі”. Практыкавалася, што сяляне “бралі на парукі” свайго пана, абавязваліся наглядаць і кантраляваць яго – і тады пана пакідалі на волі. Менавіта так адбылося ў Дудзічах.

## УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ ПАВЕШАНЫМ 1863 ГОДА

*Калі ідуць на абардаж,*
*І поўніць полымя прасьцяг*
*Да верху мачты – экіпаж*
*Цьвікамі прыбівае сьцяг.*

*Даўно здалася – нават сталь, –*
*І толькі зараз –*
*мы памром*
*Пад сьцягам, што ў прадоньні хваль*
*Зьнікае разам з караблём.*

*Ў крыві краіны нашай бель,*
*Прыходзіць час сьмяротных сноў,*
*І нашай волі карабель, –*
*Няскораны, – ідзе на дно.*

*І сёньня ў вечны наш працяг,*
*У неба на сьвітаньні дня*
*Уздымуць нас, як волі сьцяг,*
*Якому й Богу нельга зьняць.*

## Вайсковы начальнік Лідскага павета грамадзянін Нарбут

Людвік Нарбут, аб якім тут пойдзе гаворка, адыграў у паўстанні 1863 года значную ролю. Аб гэтым сведчаць сучаснікі. А. Яліцкі - аўтар кніжкі "Нарбут" - пісаў: Каліноўскі - "найвялікшы з нашых рэвалюпыянераў, выразнік грамадскай думкі паўстання ў такой жа меры, як Нарбут быў выразнікам духу і гераізму эпохі..."



Сябра Народнага ўрада А. Гілер таксама ставіў Нарбута ў шраг з Каліноўскім: Каліноўскі "человек безграничного самопожертвования, честности, разума и энергии. Личность выдающаяся, достойная стоять рядом с Сигизмундом Сераковским, Людвиком Нарбутом н Антонием Мацкевичем в памяти народной".
У 130-годдзе з дня паўстання нельга не ўспомніць пра Людвіка Нарбута. Асабліва тут, на Лідскай зямлі, з якой яго звязваюць першыя і апошнія гады жыцця. 31 жніўня 1832 г. у маёнтку Шаўры Лідскага павета ў сям'і архітэктара, інжынера і вядомага гісторыка Літвы Тэадора Нарбута нарадзіўся хлопчык, якога назвалі Людвікам. Ён вучыўся ў Лідскім павятовым вучылішчы, потым у Віленскай гімназіі, дзе ў канцы 1850 г. быў арыштаваны

за спробу стварыць "общество патриотов с целью произвести восстание". Усакавіку 1851 г. Людвіка публічна пакаралі розгамі і аддалі ў салдаты. У пісьмах з Каўказа ён прасіў сястру Тэадору прыслаць хаця б засушаную кветку або жытні каласок з родных палёў. Вярнуцца сюды давялося толькі ў пачатку красавіка 1860 г. Жыў у бацькі, вёў гаспадарку, калі ажаніўся, пасяліўся ў маёнтку Сербянішкі, недалёка ад Шаўраў. У лютым - красавіку 1863 г. Паміж Лідаю і Мерачам дзейнічаў атрад Л. Нарбута. Калі пачалося рыхтавацца паўстанне, Нарбут звязаўся з "чырвонымі", Каліноўскім, бываў на канспіратыўных сходах у Лідзе. У падпольнай арганізацыі выконваў абавязкі акруговага арганізатара. 13 лютага загадам Віленскага рэвалюцыйнага камітэта Нарбут быў назначаны вайсковым начальнікам Лідскага павета (цяпер гэта тэрыторыя Лідскага і Воранаўскага раёнаў). Ён адным з першых арганізаваў партызанскі атрад на Беларусі. Не схаваўся за псеўданімам, як гэта зрабіла большасць камандзіраў, а дзейнічаў у родных мясцінах, дзе мясцовыя жыхары яго добра ведалі і паважалі. Гэта быў смелы ўчынак і свядомы выклік царскаму ўраду.

Ядро паўстанцкага атрада Нарбута склалася ў пачатку лютага з яго, брата Баляслава (ад'ютанта) і былога студэнта Пенярбурскага ўніверсітэта Уладзіслава Пілецкага. У будаўніцтве атрада значную дапамогу аказала сястра Людвіка Тэадора Маньчуньска (Манджунская). Яна прывяла ў атрад двух расейскіх афіцэраў, групу віленскай моладзі, дастаўляла харчовыя прыпасы і нават сама ажыццяўляла пераходы з атрадам.

Першы лагер нарбутаўцаў быў заложаны у 3 вярстах ад м. Нача. Сюды з невялікай групай прыйшоў Леў Краінскі. Разам перайшлі ва ўрочышча Сабалюнцы, куды прыбыў ксёндз, настаяпель Вішнеўскага касцёла Лідскага павета Юзаф Гарбачэўскі (ён стаў капеланам атрада). Аснову атрада Нарбута складалі сяляне - гэта адна з асаблівасцей, бо ў многія атрады іх уцягвалі сілком. Людвік, як я ўжо казаў, карыстаўся папулярнасцю, а яшчэ, будучы дэмакратам, ён абвясціў маніфест аб спыненні павіннасцей і надзеле сялян зямлёй. Атрад быў нядрэнна ўзброены (партыя зброі і экіпіроўкі паступіла таксама з Вільні, дысцыплінаваны, навучаны страляць і прыёмам партызанскай вайны.

Аб тактыцы атрада Нарбута пісаў у сваім рапарце начальніку расійскіх войск, якія знаходзіліся ў Віленскай губерні, палкоўнік Амсараў: "Шайка эта хорошо вооружена и организована, во время действий высылает цепи и в совершенстве пользуется местностью, даже устраивает засеки для собственного прикрытия. Не имея обоза, легко одетая, знакомая с местностью, она занимает в лесу трудно доступные позиции. При приближении войск, хотя не представляет большого сопротивления, но встречая войска она из-за надёжного прикрытия, быстро отступает в чащу, вновь занимая другую позицию, при этом образе действий войска наши, не имея возможности её настигать в частом лесу, могут нести бесполезные потерн..."На тактыку атрада Нарбута безумоўна спрыяў яго ваенны вопыт: ён удзельнічаў у двух войнах - Каўказскай і Крымскай, меў званне прапаршчыка і пайшоў у адстаўку падпаручнікам.

За амаль чатыры месяцы існавання атрад Нарбута ўдзельнічаў у шэрагу баёў і сутычак. 28 лютага нарбутаўцы з'явіліся ў наваколлі м. Эйшышкі Лідскага павета. Ішлі з вёскі да вёскі, начавалі ў памешчыцкіх мызах, вербавалі ў атрад, чыталі сялянам пракламацыі, адымалі зброю ад ляснічых. Паблізу Воранава на дарозе Вільна-Ліда паспрабавалі спыніць пошту, страляючы ў канвойных салдат. Першая буйная сутычка адбылася пры в. Рудніки Трокскага павета. З боку паўстанцаў - 80 чал., у праціўніка - рота лейб-гвардыі Маскоўскага палка на чале з палкоўнікам Вінбергам і сотня казакоў. Пасля першых стрэлаў паўстанцаў казакі адышлі, а пяхота трымалася здаля, каб не даляталі кулі. Атрад пераправіўся праз Сольчу і рушыў да Аранаў. У баі было паранена 4 расійскіх салдаты і забіта 4 паўстанцы. Хутка атрад Нарбута аказаўся ў Радунскім прыходзе Лідскага павета і хадзіў паміж мястэчкамі Забалаць і Нача.

10 красавіка Нарбут паслаў атрад коннікаў у Бершты, каб ён знішчыў мост на р. Котра - гэта аперацыя перарвала камунікацыю ад чыгуначнай станцыі Парэчча. 11 красавіка адбыўся бой каля в.Лубічы Каняўскай воласні Лідскага павета. Сустрэліся паўстанцы Нарбута і 2 роты лейб-гвардыі Паўлаўскага палка з 36 казакамі Данскога палка пад камандаю капітана Цімафеева. Рухаючыся часам па пояс у вадзе, карнікі ўсё ж вымусілі

паўстанцаў адступіць. Яны адышлі з цэльнай стральбой па праціўніку і выкарыстоўваючы мясцовасць. Страты іх: 1 забіты, 5 паранена, расійскіх салдат забіта - 2, паранена - 53. Пасля гэгага бою генерал-губернатар Назімаў прызначыў за галаву Нарбута вялікую цану, а расійскія салдаты празвалі яго ведзьмаром.

Для разгрома атрада Нарбута ў Гродна была складзена асобая частка: атрад палкоўніка Вернера (3 роты Калужскага пяхотнага палка, эскадрон улан Курляндскага палка, 20 казакаў і 1 гармата). 14 красавіка ён рушыў з Гродна ў пошук нарбутаўцаў. 20 красавіка ў в. Буды Вернер даведаўся, што паўстанцы хаваюцца ў балотах у наваколлі возера Думбля (каля в. Кавалькі). Бой, які тут адбыўся, працягваўся чатыры галзіны. Агульная колькасць атрадаў Нарбута і Навіцкага дасягала каля 600 чалавек, але Вернер меў 805 чал. Пасля цяжкага бою паўстанцы страцілі 7 забітымі (сярод іх - Навіцкі і брат Нарбута) і болей 10 параненымі (па іншых даных - забіта 100, паранена - болей 100). 10 расійскіх салдат было паранена.

Нарбуту ўсё ж удалося захавань ядро атрада, а Вернер 23 красавіка пайшоў у Гродна. 30 красавіка Віленскі паўстанцкі камітэт прысвоіў Нарбуту званне палкоўніка паўстанцкіх войск і, можа быць, кур'ер, якога прыняў Нарбут у ноч з 2 на 3 мая, прывёз яму патэнт на кіраўніцтва ўсімі ўзброенымі сіламі на тэрыторыі Паўночна-Заходняга края.

Апошні бой Нарбута адбыўся ля возера Полясы, каля в. Дубічы. Начальнік Віленскага атрада вядомы ўжо нам Цімафееў нарэшце выдапільнаваў няўлоўны атрад. Маючы значна большыя сілы (ланцуг стралкоў, рота Паўлаградскага палка, узвод казакаў Данскога палка), чым паўстанцы, ён вырашыў іх атакаваць і знішчыць. Нарбут не чакаў праціўніка і яго байцы практыкаваліся ў стральбе. Карнікі ж пайшлі на, хітрасць: пераапрануліся ў сялянскую вопратку і іх прынялі за сялян чакаемага транспарта з хлебам. Такім чынам, атака расійскіх стралкоў была нечаканай. Яны выбілі паўстанцаў з балотных кустоў, а пяхотная рота атакавала левы фланг Нарбута, каб скінуць у балота. Манеўр атрымаўся, паўстанцы адышлі, але зрабілі гэта арганізавана (перакатамі). Восем атак патрабавалася Ціімафееву, каб зламаць сапраціўленне і прымусіць Нарбута аддаць загад прабіваіша д акружэння асобнымі групамі. Цімафееў праследаваў паўстанцаў па калена ў балотнай вадзе, праз густарослую лазу да самай цемры і толькі ў тры з паловай ночы вярнуўся ў м. Дубічы.

У выніку боя было забіта 13 паўстанцаў (па іншым даным - 61), паранена 8 (ці 9), у палон папала 6 чалавек. Гярод забітых - памочнік Нарбута Л. Краінскі і сам Людвік. Яго паранілі тройчы:спачатку ў нагу, потым - у грудзі. Паплечнікі неслі яго на руках,каб схавацца ў лесе, але смяротная куля папала ў шыю. Захаваўся цікавы расказ гвардзейскага афіцэра, які чуў падрабязнасці гібелі Нарбута ад Цімафеева: "Отступление совершалось в порядке, как вдруг Нарбут пошатнулся, упал на колени и присел на землю. Ближайшие повстанцы бросились к нему на помощь, но он замахал рукамн и проговорил: "то ниц, то ниц'.." (это ничего, ничего!). Он был смертельно ранен. Его подхватили на руки и побежали с ним, но спасти всё-таки не смогли, так как наши подошли и были уже в нескольких шагах. Нарбут ещё успел расстегнуть чамарку и передать бумаги и деньги одному из своих проводников, но затем упал мёртвым вместе с помошниками, пораженными несколькими пулями... Шайка при известии о тяжелой ране своего начальника приостановилась на свою гибель. Ее окружили и почти всю уничтожили". Далей ва ўспамінах царскага афіцэра гаварылася: "Мы вышли в переднюю; первое, что я увидел, был лежавший на скамейке труп Нарбута. Он был в простой синей чамарке, без всяких отличий и в больших сапогах. Лицо покойника было красивое, привлекательное: высокий лоб, правильные черты лица, на котором как будто застыла горделивая улыбка"4. Вядомы віленскі мастак Э. Андрыелі, які ваяваў у атрадзе Нарбута і быў паранены ў апошнім баі, намалюе потым палатно "Смерць Нарбута".

Забітых паўстанцаў прывезлі ў Дубіцкі касцёл, - адпелі і пахавалі паблізу ў брацкай магіле, але хутка зруйнавалі яе з зямлёй. А па вёсцы Дубічы яшчэ доўга патрулявалі казацкія раз'езды. Палонныя папалі ў Сібір, Баляслава Нарбута злапалі ў ваколіцах Друскенік і аддалі пад ваенны суд у Гродне. СястраТэадора збегла за мяжу. Рэшткі атрада былі сабраны пад кіраўніцтва Парадоўскага - Астрога, які летам завёў атрад у Гродзенскую пушчу, а потым далей - у Аугустоускія лясы.

...У 1933 г. польскі 76 полк пяхоты імя Л. Нарбута на сабраныя грошы паставіў на месцы пахавання паўстанцкага камандзіра помнік з надпісам: "За нашу свабоду і вашу".



# Лідская шляхта ў паўстанні 1863 года

Нацыянальны ўрад або так званы Цэнтральны камітэт абвясціў у дзень паўстання 22 студзеня 1863 года зварот, у якім чытаем: "...У першы дзень адкрытага выступлення, у першую хвіліну пачатку святога змагання Цэнтральны нацыянальны камітэт абвяшчае ўсіх сыноў Польшчы, без розніцы веры і роду, паходжання і стану вольнымі і роўнымі жыхарамі краю. Зямля якую сяляне выкарыстоўвалі датуль на правах чыншчу ці паншчыны становіцца ад той хвіліны безумоўнай іх уласнасцю, вечнай спадчынай. Уладальнікам, пацярпелым ад гэтага будзе выплачана кампенсацыя з агульных фундушаў дзяржавы... Да зброі ўсе. Народзе Польшчы, Літвы і Русі да зброі! Бо, час агульнага вызвалення ўжо прабіў, стары меч наш аголены, святы штандар Арла, Пагоні і Архангела разгорнуты..."

Пасля выбуху паўстання ў Кароне Людвік Нарбут адзін з першых 2 лютага з'арганізаваў аддзел на Літве і 14 лютага з малодшым братам Баляславам і шасцю вяскоўцамі вырушыў з маёнтка Сербянішкі ў лясы ў ваколіцах Эйшышак.

У той жа дзень, па дарозе далучыліся да яго Лявон Краінскі з Грышанішак з некалькімі людзьмі. Гэта быў пачатак аддзелу Нарбута. Аддзел хутка рос, таму што Людвік Нарбут быў незвычайна папулярны сярод людзей. У Эйшышках пад канец лютага далучыўся да яго вялікі аддзел пад кіраўніцтвам ксендза Юзафа Гарбачэўскага, вікарыя Эйшышскай парафіі, які першым у Лідскім павеце абвясціў з амбона маніфест Нацыянальнага ўраду.

У лютым аддзел прамаршыраваў праз вёскі Попішкі, Калітанцы, Рудню, Салкі, Гудэлі ў кірунку Рудніцкай пушчы. Затрымаліся ў маёнтку Парадунь Ксаверага Турскага, і маёнтку Подзітва Яна Карловіча.



Ужо 11 лютага невялікая партыя паўстанцаў сфармаваная ў Лідскім павеце з'явілася ў аколіцах чыгуначнай станцыі Марцінканцы. Праз 5 дзён 16 лютага яна затрымала цягнік і адбіла рэкрутаў якіх вязлі з Каралеўства Польскага.

Начальнік паўстання ў Лідскім павеце выбраў тэрыторыю дзейнасці, а ў пушчы над ракой Котра заснаваў лагер і распачаў барацьбу. Аддзел налічваў каля 300 чалавек, быў узброены пераважна паляўнічай зброяй, косамі, а пасля пераможных баёў штуцарамі і вайсковымі карабінамі. Партыя, якой кіраваў здольны правадыр і дасканалы знаўца партызанскай барацьбы, нанесла шэраг адчувальных паразаў расейскай гвардыі.

9 сакавіка пасля пераможных бітваў пад Руднікамі, у ваколіцах станцыі Рудзішкі, над рэчкай Мерачанкай да паўстанцаў далучылася група віленскіх дабраахвотнікаў пад кіраўніцтвам Эльвіра Міхала Андрыёлі. Наступныя баі адбыліся пад Новым Дваром, пад Пілоўняй, каля Бершт, пад Кавалькамі, над возерам Думбля.

Занепакоеныя ўлады спецыяльна для задушэння "бунтаўшчыкоў" прысылаюць некалькі батальёнаў, але арганізацыйныя здольнасці і веданне вайсковай справай Нарбутам, набытыя на Каўказе ў вайне з чачэнцамі, дазваляюць яму у хвлііны небяспекі бліскавічна арыентавацца ў сітуацыі

і ўхіляцца ад баёў з большымі сіламі ворага. На працягу 3-х месяцаў аддзел Нарбута быў сапраўдным страхам для маскалёў таму, што дзейнічаў хутка і дакладна. Добра знаёмы з тэрыторыяй размяшчэння Нарбут займаў цяжка даступныя месцы ў лесе. Акрамя таго камандзір заўсёды пільна сачыў за неабходнасцю заціранння за сабой слядоў, а пры любой аказіі шкодзіў ворагам, дзе толькі мог. Пераймаў чыноўнікаў, па дарогах, адбіваў партыі рэкрутаў, вешаў здраднікаў нацыянальнай справы, забіраў зброю ў леснікоў і т. п. Дзейнасць Нарбута прывяла да таго, што генерал-губернатар Назімаў выдаў спецыяльны загад для сцягвання вялікіх аддзелаў лейб-гвардыі Паўлаўскага палка с 3-х пунктаў: з Вільні, Горадні і Ліды. Тыя аддзелы атрымалі загад любой цаной разбіць аддзел неўлавімага "бунтаўшчыка" Нарбута. А вось, апісанне аднаго з баёў паводле Э. М. Андрыёлі:

"Акружаныя і заціснутыя маскалямі, якія мелі за справу гонару разбіццё аднаго аддзелу, што меў славу на Літве, цэлую ноч адступалі без дарог, змучаныя, галодныя, замёрзлыя. Ксёндз Гарбачэўскі, Краінскі, Нарбут і праваднік са свечкаю ў руках шукаюць дарогі па пушчы. Мы парамі, хістаючыся ад стомы і сплючы на маршы, чапляючыся за калоды і вываратні, сунемся следам за агенчыкам. Бываюць хвіліны, што нашы праваднікі губляюцца ў велізарнай пушчы, кажуць аддзелам спыніцца, а самі разыходзяцца шукаць слядоў дарогі: тады адны стоячы, другія прысеўшы, іншыя абапёршыся зноў засынаюць чуткім сном. Зноў каманда: "Марш" і цягнецца сонная, змучаная дружына.

Пад раніцу пераканаўшыся, што кружым вакол, кідаем асцярожнасць і галодныя спыняемся недалёка ад хаты лесніка ва ўрочышчы Лакштунцы. Пра выбар пазіцыі няма мовы. Бо мы думаем, што маскалі, страпаныя нашым начным бадзяннем, пакінуць нас у спакоі. Затрымаліся ў сярэдзіне вялізнага лесу, маючы за сабой балота, а перад вачамі невялікую прасеку, цераз якую вілася сцежка да лесніка. Сонца пачынае прыпякаць, пад адзінаццаць раніцы становіцца горача. Кожны размясціўся, як мог, захоўваючы аднак баявую лінію павернутую фронтам да прасекі. Адны спяць, другія ядуць, іншыя выграваюцца на сонцы, некаторыя чытаюць кніжкі альбо лісты.

Каля другой ад паўдня зменены пікеты, цішыня ў лагеры нечуваная, чуцён піск мух і камароў. Нарбут на хвіліну адышоў за зараснік, звыклая пільнасць на гэты раз аслабла, цяпло і стома апанавалі ўсімі.

Раптам стрэл здалёку, а за ім два іншыя. "За зброю, за зброю!". Нарбут ужо паміж намі. Забурліла, як ў катле, падхопліваюцца задрамаўшыя... пытанні, неспакой, замяшанне. Толькі начальнік спакойны, гаворыць пасунуцца наперад на 300 крокаў і заняць баявую лінію па трое ўздоўж краю лесу і прасекі.



Пераканаліся тады, што можа халодная адвага аднаго чалавека. Усе хвіліну назад трывожныя, неспакойныя, гатовыя ўцякаць, зараз прытомныя, зручна пазаймалі прызначанае сабе месца. Касінеры з афіцэрам ў баявой калоне залеглі праз 200 крокаў за стралкамі. Тыя ж хаваючыся за пнямі і ў кустах, галавой наперад з руляй перад сабой і пальцам на спуску, чакалі каманды да стральбы, а здалёку ўжо гралі маскоўскія трубы баявы сігнал: "Рассыпались молодцы! За камни, за кусты, по два в ряд!" Знаёмы той сігнал дагэтуль гучыць ў вушах. У лесе, дзе кожны куст, кожнае дрэва хавае засаду, дзе ніколі нельга палічыць непрыяцеля, дзе кожнаму здаецца, што толькі ён і некалькі бліжэйшых яшчэ бароняцца, а рэшта ўжо ўцякла, дзе рэха сто разоў паўтарае стрэлы і рык маскалёў, а небяспека, здаецца, атачае з усіх бакоў - вайсковая труба робіць немалое ўражанне.

"Пане Пілецкі - гукае Нарбут, - вазьмі 10 чалавек і марш на рэкагнасцыроўку, - а праз хвіліну, - калі ласка не рызыкуй". Пілецкі, былы студэнт Пецярбургскага універсітэта, смелы, талковы, разважлівы, а прытым ветлівы

і далікатны хлопец быў улюбёнцам ўсяго аддзелу.
Яму то Нарбут давяраў найрызыкоўнейшыя справы, пэўны ў тым, што з іх смела і разважліва выйдзе.
Пасля адходу Пілецкага наступіла ціша, якой, нават, маскоўская труба не перарывала. Толькі сэрцы біліся хутчэй. Нарбут перабегае ўздоўж ўсёй лініі з шашкай ў адной і шапкай ў другой руцэ, спыняецца, слухае і зноў выглядае, ці ўсе на месцы.
Страшную цішу неспадзявана разрываюць выбухі некалькі стрэлаў, загралі трубы і даляцела: "Ура-Ура", якое лес падхапіў і на тысячу таноў паўтарыў. Зашамацелі кусты і з стрэльбамі, якія яшчэ дыміліся, выскачылі нашы рэкагнасцыроўшчыкі. Твары белыя, дыханне прыспешанае: "Пане начальнік! Ідуць шасцёркамі, лінія вялізарная, займаюць крылы!"



- Добра! На месца! Ціха... ніякіх галасоў! Хто крыкне - растраляю! Страляць прыцэльна! Чакаць, пакуль не загадаю! Каб мне ніхто не піснуў!
А ад стрэлаў маскоўскіх здавалася, што ломіць лес, кулі капаюць землю. Ужо сям-там чуваць: "Езус, Марыя! Правядзіце мяне на воз!" Але загадана не страляць. І кожны сэрцам, што гучна б'ецца, з стрэльбай наперад чакае, пакуль яму пакажацца маскаль.
Гулка грыміць лес. Стрэлы і крыкі ў 100 раз гусцейшыя і бліжэйшыя, ломяцца галіны, чуваць марш цяжкай масы. Праз хвіліну ўбачым маскоўцаў, а перад намі прасека, ціхая аблітая сонцам.
Замігалі шэрыя шынялі, бліснула зброя і белыя акруглыя аблочкі на фоне лесу. Маскалі займаюць супрацьлеглы край прасекі. Хаваюцца за дрэвы, але наперад, не гледзячы на загады афіцэраў, не рухаюцца. Відаць іх непакоіць ціш з нашага боку. Нарэшце з трэскам і стрэламі рухаюцца шестёркамі. Была то хвіліна збавення, сэрцы біліся гвалтоўна, яшчэ 40 крокаў, і вытнуць ў штыхі, але раздаўся знаёмы нам моцны голас: "Агонь, хлопцы, усёй лініяй!" І ад канца да канца праляцеў выбух больш сотні стрэлаў, а потым ціша і дым.
Не граюць трубы, маўчыць "Ура!"
- Добра, добра, спраўна, набіць зброю, востра хлопцы! - гукае расчырванелы Нарбут абабягаючы ўсю лінію.
Зноўку граюць трубы і чуваць маскоўская каманда, зноўку грымяць стрэлы і "Ура, вперёд ребята!" Ломяцца кусты. Прымушаныя гнаныя сілай паслушэнства, кідаюцца маскалі галавою ўніз з штыхамі наперад. Ужо, ужо сядзяць нам на карку. Яшчэ хвіліна і ўсе кінемся наўцёкі. Але на выгук "Агонь, прыцэльна!" запаляюцца 150 стрэльбаў на нашай лініі. Воблака дыму закрывае ўсё, уціхае трэск чуваць толькі енкі раненых і канаючых з абодвух бакоў.
Але не доўга трывае цішыня, падходіць падмога. Зноў заенчыў лес, стрэлы, крыкі, паніка... Даём агню некалькі разоў, яшчэ трымаемся. Раптам пабегла левае крыло, зламанае націскам маскалёў, стараемся ўтрымацца, але ўжо позна. Кідаемся направа, за малое балотца дзе ўсё фармуецца вакол начальніка. Масква раз'юшана кідаецца ўсім кагалам за левым крылом міма нас, як бура, страляюць, крычаць, дратуюць раненых, агонь

аддаляецца, чуваць толькі адзіночныя стрэлы, галасы ціхнуць, лес замаўкае, ціша, але як яна адрозніваецца ад ранейшай. Бітва скончылася. Пунцовае сонца села за лесам. Здалёк даходзіць да нас глухі шум размоў, водгалас трубы і ад часу да часу далёкі стрэл. Ноч..."

Становішча што раз станавілася ўсё больш небяспечным. Паўстанцы адступалі ў глыб пушчы. Другога траўня Нарбут размясціўся з лагерам на пагорку пасярод балот недалёка ад Дубіч на поўдзень ад возера Пеляса. Доступ да лагера быў немагчымы для тых, хто не знаў таемных перамычак і вузкіх сцежак паміж багнамі. Але якраз там пятага траўня адбыўся апошні бой. Лагер паўстанцаў выдаў ворагам гаёвы дзяржаўных лясоў здраднік Базыль Карповіч, даверany чалавек Нарбута. Акружаны адусюль пераважнымі сіламі ворага (якімі кіраваў капітан Цімафееў), паранены ў нагу ў пачатку бітвы, Нарбут праз увесь час кіраваў боем, і як даносяць пазнейшыя рапарты "паранены куляй у грудзі, сканаў з апошнім намаганнем гаворачы да таварышаў, што прыемна памерці за Айчыну". Разам з начальнікам загінулі яго таварышы па змаганні: Аляксандр і Францішак Бразоўскія (Беразоўскія), сыны Францішка) з Гарнофеля, Стэфан Губарэвіч, сын Стэфана з Галавічполя, Станіслаў Ян Ёдка з Петрашунцаў, Лявон Краінскі сын Антонія з Грышанішак, Юзаф Пакемпіновіч з маёнтка Подзітва, Уладзімір Паплаўскі з Крэвіна, Вандалін Жукоўскі з Лацка, Казімір Грэмза, сын Стэфана з Ліпкунцаў, Ігнацы Тарашкевіч - фельчар з Ліды, Адам Н., Томаш Скірмунт- жыхар Піншчыны. У няволю трапілі Пётр Янкоўскі - сасланы ў Іркуцк, дзе памёр, Уладзіслаў Клімантовіч - сасланы ў Сібір, Уладзіслаў Нікалаі (паручнік расейскага войска) - расстраляны ў Вільні 25.09.1863 г. на вядомым пляцы Лукішкі, доктар Цыпрыян Пясецкі з Пескаў - высланы на катаргу ў Табольск, Уладзіслаў Пілецкі, былы студэнт Пецярбурскага універсітэта, прыгавораны да 6 гадоў катаргі, Фелікс Ройша з Ліды, Цыпрыян Коркуць з Ліпкунцаў, Адольф Краінскі з Палашак (высланы ў Варонежскую губерню, дзе памёр), Ян Глушыцкі.

Пасля смерці Нарбута паўстанне ў Лідскім павеце, здавалася, ужо толькі дагарала. Паўстанцы без камандзіра туляліся па лясах і не маглі правесці больш важнай акцыі. Брат Людвіка Баляслаў стараўся захаваць аддзел для далейшай барацьбы. Загадаў паўстанцам трымацца ў лесе ў ваколіцах вёскі Паддуб'е, куды меўся прыбыць новы начальнік.

Цэнтральныя паўстанцкія ўлады ў гэтай сітуацыі вызначылі начальнікам на Лідскі павет тагачаснага начальніка Ашмянскага павету Астрогу або Аляксандра Парадоўскага. Задачу ён меў цяжкую. Належала сабраць раскіданых паўстанцаў і падняць сярод іх ранейшы запал і энтузіязм. Першым важным заданнем Астрогі было пакаранне здрадніка Базыля Карповіча. У дзень зялёных свят (сёмуха) Базыль быў павешаны ў вёсцы Мантаты каля Дубіч. Падобны лёс спаткаў іншага здрадніка селяніна Яна Шумялевіча 15 чэрвеня 1863 года ў маёнтку Сумарокаўшчына.



Намаганні Астрогі ў справе ажыўлення паўстання не давалі вынікаў. Дзейнасць цывільных улад паўстанцаў пачала прабуксоўваць. Жывёла, зброя часта не даходзіла да рук паўстанцаў, або даходзіла з вялікім спазненнем, у недастатковай колькасці. Смерць Нарбута і ўсё больш суровыя рэпрэсіі, якія праводзіліся новым губернатарам Міхаілам Мураўёвым (прыбыў ў Вільню 14 траўня) былі таму прычынай. У той самы час на мяжы Лідскага павету ў Рудніцкай пушчы мелі месца дзве буйныя сутычкі паўстанцаў Троцкага павету з царскімі войскамі. Першая з іх 31 траўня каля Зыгмунцішак з аддзелам генерала Вельямінава, а другая 17 чэрвеня з казакамі палкоўніка Алхазава.

Астрога правёў некалькі баёў у чэрвені, з якіх найбуйнейшым і найлепш прадуманым быў бой пад Каркуцянамі на поўдзень ад Эйшышак 23 чэрвеня з аддзелам палкоўніка Ўласава. Пасля той бітвы ў Эйшышках быў размешчаны вялікі аддзел расейскіх войскаў палкоўніка Крамера.

Праз пару тыдняў Астрога мусіў пакінуць межы Лідскага павету і перамясціцца на Гарадзеншчыну, дзе пад напорам царскіх войскаў 9 жніўня перайшоў Нёман і аказаўся ў Аўгустоўскай губерні.
Так закончылася паўстанне на Віленшчыне. Насталі крывавыя разборкі і рэпрэсіі Мураўёва- вешальніка. Запанаваў страшны стан самавольства, найсуроўшых праследаў, следства, падазрэнняў і кары. Засценкі і вёскі, замешаныя ў паўстанні, палілі, а пазней часта заворвалі месца, на якім яны стаялі, жыхароў высылалі ў Сібір. Для прыкладу з ваколіцы Цяцянцы у 1864 годзе былі высланы шляхочыя сем'і Юзафа Палукорда (сын Юрыя), Карнелія Бельскага (сын Барталамея), Антона Вайсята (сын Вінцэнта), Юзафа Сангіна (сын Яна), з ваколіцы Свянеўшчына сям'я Вінцэнта Гурскага, а з вёскі Ліпкунцы сям'я Ізыдора Трушынскага ў Самарскую губерню, а на нявывезеных накладзена вялікая кара грашыма.
Жалоба пакрыла ўсю Літву. Але каб яшчэ больш зраніць народ, генерал-губернатар забараніў жанчынам (у чэрвені 1863 года) нашэнне жалобы па страчаных мужах, братах і бацьках.
**Артыкул:** *Часлава Малеўскага*



# Рамуальд Траўгут на Кобрыншчыне

У бягучым годзе спаўняецца 150 год нацыянальна-вызваленчаму паўстанню 1863-64 гг. На Беларусі гэта падзея вядома як паўстанне Кастуся Каліноўскага. Многія ўдзельнікі і кіраўнікі паўстання былі звязаны з землямі сучаснай Беларусі.
Напрыклад, на Кобрыншчыне пачаўся шлях генерала паўстанцкіх войскаў дыктатара ў Варшаве Рамуальда Траўгута.
Gloria victis (Слава пераможаным) – так назвала серыю апавяданняў пра паўстанцаў 1863 года Эліза Ажэшка. У цэнтры іх – постаць Рамуальда Траўгута.

Род Траўгутаў (Traugutt) паходзіць з Саксоніі. У Рэчы Паспалітай Траўгуты атабарыліся ў першай палове XVIII стагоддзя. Дзед Рамуальда, Якуб Траўгут, стаў пяхотным капітанам, у час паўстання 1794 года атрымаў асабістую падзяку ад Тадэвуша Касцюшкі.



Бацька, Людвік Траўгут, быў незаможным шляхціцам і арандаваў маёнтак Шастакова (Камянецкі раён), дзе 28 студзеня 1826 года нарадзіўся Рамуальд. Маці яго, Алаіза, паходзіла з роду Блоцкіх, гэта, напэўна, было адгалінаванне старажытнай кобрынскай фаміліі Снежка-Блоцкіх, якім належаў маёнтак Балата (цяпер Кісялёвіцкі сельсавет Кобрынскага раёна).
З сярэбраным медалём Р. Траўгут у 1842 годзе скончыў Свіслацкую гімназію, але не змог паступіць у інжэнерную акадэмію (Пецярбург), таму пайшоў служыць у Трэці сапёрны батальён, які размяшчаўся ў Жэлехаве, каля Варшавы. За час службы атрымаў чын падпаручыка, карыстаўся даверам саслужыўцаў, быў нават абраны батальённым казначэем.
У сувязі са смерцю бацькі ў лютым 1849 года Рамуальд быў на 28 дзён выкліканы з венгерскага тэатра ваенных дзеянняў па

хадайніцтву пружанскага павятовага маршалка.
У 1852 годзе Рамуальд ажаніўся з дачкой варшаўскага ювеліра Ганнай Пікель, якая нарадзіла дзве – дачкі Ганну (1853) і Алаізу (1857). Маладой дапамагала бабуля Рамуальда па мацярынскай лініі – Юстына Блоцкая (Шуйская).
З 1853 па 1855 год Р. Траўгут зноў адправіўся на вайну.
З 1855 года Рамуальд служыў у Харкаве. А пасля пераводу ў корпус ваенных інжынераў (С.-Пецярбург), заняўся навукай. Ён узначаліў адзін з аддзелаў электрамагнетычнай часці, наведваў ва ўніверсітэце лекцыі прафесараў Ходнева і Ленца, праводзіў цэлыя дні ў бібліятэках. Р. Траўгут канструяваў прыборы, якія выклікаюць на адлегласці ўзрывы марскіх і наземных мін, але, на жаль, яго вопыты не вызвалі інтарэсу ў вышэйшых марскіх чыноў імперыі.
1859 год прынёс для Траўгута ўдары лёсу – памерлі двое малалетніх блізнят, за імі сышла ў магілу бабка Юстына, а ў снежні – і жонка Ганна. У лютым 1860 года памёр брат бабкі Юстыны, Віталіс Шуйскі, які меў маёнтак Востраў у Кобрынскім павеце (зараз Маларыцкі раён). Рамуальд Траўгут выехаў у Кобрын для вырашэння справы спадчыны, бо ён быў не адзіным спадчыннікам. Напэўна, у Кобрыне ён пазнаёміўся са сваёй другой жонкай, Антанінай Касцюшка, траюраднай пляменніцай Тадэвуша Касцюшкі. Яе вельмі палюбілі дочкі Траўгута.




Калі Рамуальд уступіў у валоданне спадчынай Шуйскага, уся сям’я пераехала ў маёнтак Востраў. 14 ліпеня 1862 года Траўгута звольнілі з расійскай арміі па хваробе, у чыне падпалкоўніка. Трэба адзначыць, што ён працягваў займацца навукай. У адным з памяшканняў яго дома ў Востраве была ўладкавана фізічная лабараторыя з чатырма электрычнымі машынамі найноўшых узораў, там ён спрабаваў атрымаць вялікую напругу электрычнасці. Таксама ён падтрымліваў перапіску з вядомым нямецкім вучоным Вільгельмам Хольтам.
Але яго мірнае жыццё зноў было перарвана. На вялікай тэрыторыі Беларусі паўстанцкая арганізацыя рыхтавалася да ўзброенага выступлення ў красавіку.
Пазней Рамуальд Траугут заявіў:
«Я нікому не раіў падымаць паўстанне, наадварот, як былы вайсковец, я бачыў усю складанасць барацьбы без арміі і ўзбраення з дзяржавай, якая вядома сваёй ваеннай магутнасцю. Калі ўзброенае паўстанне павінна было ўспыхнуць у Кобрынскім павеце Гродзенскай губерні, дзе я жыў, за некалькі дзён да пачатку паўстання да мяне звярнуліся з просьбай прыняць камандаванне.
Разгубіўшыся, я апісаў усе перашкоды як агульнага, так і асабістага парадку, і рэкамендаваў адмяніць рашэнне аб пачатку паўстання. Высветлілася, што зрабіць гэта ужо проста немагчыма. Тады я прыняў іх просьбу…» Палічыў неабходным не берагчы сябе там, дзе астатнія ахвяруюць усім.
Хачу прывесці словы беларускага даследчыка Віктара Хурсіка: «Асабліва спрэчнай выглядае «афарбоўка» паўстанцаў у белы і чырвоны колер. Усіх беларускіх памешчыкаў прынята адносіць да «белых», якія раўнадушна назіралі за тым, што адбывалася. Аднак дакументы сведчаць аб іншым: многія памешчыкі сапраўды выказвалі засцярогу, не ішлі на адкрытае выступленне, стрымлівалі ад гэтага сваіх родных і блізкіх. Але калі ўсё ж нехта трапляў у лес, то яго не цураліся і дапамагалі як маглі… Зрэшты, дзяцей так званых «белых» у лясах была большасць (у дзеючых атрадах «сялянскага» паўстання яны складалі 75%, у той час як сялян было ўсяго 18%). Як сказаў калісьці Уладзімір Калеснік: «А вось у былыя гады, калі складалі жыція святых, арыстакратычнае паходжанне мучаніка шло яму ў залік. Так і павінна быць. Цяжэй ахвяраваць сабой таму, каму ёсць што губляць».

Недзе ў красавіку 1863 года на тайным зборы ў маёнтку Міграшэўскіх Божы Дар (зараз Буховіцкі сельсавет Кобрынскага раёна) Рамуальд Траўгут прысягнуў на вернасць паўстанню і прыняў камандаванне Кобрынскім атрадам. Леанід Несцярчук запісаў апавяданне жыхаркі хутара Божы Дар пра знаходку ў 1970-х гадах куфэрка з узнагародамі і паперамі на польскай мове. Магчыма, гэта былі дакументы таго тайнага збору. На жаль, нічога з гэтага кладу не захавалася.



Пасля пачатку паўстання, у красавіку 1863, Траўгут сфарміраваў і ўзначаліў Кобрынскі паўстанцкі атрад, які ў баях каля в. Боркі (цяпер Астроміцкі сельсавет Кобрынскага раёна) тройчы нанёс паражэнне расійскім карным часцям. У чэрвені 1863-га з Брэсцкім атрадам Я. Ваньковіча зрабіў рэйд па Піншчыне і Паўночнай Валыні, але атрад Р. Траўгута панёс значныя страты, і ў ліпені 1863-га з дапамогай Э. Ажэшкі Р. Траўгут таемна выехаў у Варшаву. Атрымаў чын генерала, быў прадстаўніком паўстанцкіх улад за мяжой. У кастрычніку 1863 года кіраўнік Нацыянальнага ўраду ў Варшаве і фактычна дыктатар паўстання. Шмат зрабіў дзеля пашырэння яго сацыяльнай базы, надання яму новага размаху, рэарганізацыі ўзброеных сіл інсургентаў. Арыштаваны 30 сакавіка 1864 года. Паводле прыгавору ваеннага суда павешаны ў Варшаўскай цытадэлі.

Пасля пакарання смерцю Р. Траўгута яго маёнтак Востраў быў спалены.

Некаторыя польскія даследчыкі лічаць, што Траўгуту належаў у Кобрыне дом, у якім зараз месціцца Кобрынскі ваенна-гістарычны музей імя А.В. Суворова. У выданнях «Палессе. Фотаздымкі з дваццатых і трыццатых гадоў» і «Polesie» размешчаны фотаздымак будынка, падобнага да дома-музея, з подпісам, што гэта дом, які належаў Рамуальду Траўгуту. Як сведчаць крыніцы, перад атрыманнем у спадчыну Вострава Траўгут жыў у доме ў Клапоцыне – зараз гэта вул. Піянерская ў Кобрыне, там жа жыла і Антаніна з дзецьмі пасля знішчэння маёнтка. Як лічыць А. Цвыд, «чуткі аб кобрынскім доме Траўгута безпадстаўныя і, напэўна, звязаныя з тым, што праз восем год пасля гібелі мужа ў былой сядзібе А. Суворава – Губерніі пасялілася ўдава Траўгута. Яна выйшла замуж за сына гаспадара маёнтка Аляксандра Міцкевіча – Францішка. У адным з пакояў гэтага дома быў усталяваны своеасаблівы музей Траўгута, там жа захоўваліся яго лісты «з-пад шыбеніцы», апошнія лісты Рамуальда перад пакараннем.

Калі сям'я Траўгута пераязджала са спаленага Астроўя у Клапоцын, яго маленькі сын Рамуальд прастудзіўся і захварэў. І ўжо не адыйшоў. Пахавалі яго, па ўспамінах Алаізы Траўгут, каля фамільных магіл Пашкевічаў. Пазней там з'явіліся магілы Аляксандра і Францішка Міцкевічаў… На магіле Міцкевічаў узвелі помнік, які і захаваўся».

на старой частцы новых могілак Кобрына захаваўся магільны склеп Касцюшкаў, дзе пахавана Антаніна з Касцюшкаў, Траўгутава, Міцкевічава.

«Хутка пасля пакарання смерцю бацькі і разарэння Астроўя ў Клапоцын з Брэст-Літоўска явіўся ўраднік з распараджэннем цара забраць ва ўдавы дзяцей Рамуальда і аддаць іх у інстытут шляхетных дзяўчат у Пецярбурзе…

Але Ганну і Алаізу тайна адправілі ў Варшаву, дзе з дапамогай патрыётаў яны раслі і выхоўваліся ў пансіянаце пад чужымі прозвішчамі. Затым па чарзе дзяўчаты займаліся ў інстытуце польскіх паннаў. Старэйшая, Ганна, хутка выйшла замуж за свайго кузэна Яна Рамуальда Корвін-Юшкевіча і пасялілася ў Белай – фальварку

каля Бярозы-Картузскай, які належаў тады сястры Р. Траўгута.

Малодшая, Алаіза, пасля вучобы вярнулася ў Варшаву. Тут і жыла… У Кобрын, да маці і айчыма, прыязджала не раз».

Дзеці былі толькі ў старэйшай сястры, Ганны, – тры сыны, ніводнага яна не назвала імем Рамуальд – лічыла нешчаслівым. Старэйшы, Адам, загінуў у мундзіры рускай арміі ў Першую сусветную; малодшы, Баляслаў, – у верасні 1939-га; унук Ежы – у лагеры Асвенцым.



*Сустрэча ў Божым Дары. Нашчадкі Траўгута і Мітрашэўскага*

З Кобрынам імя Траўгута звязана яшчэ і тым, што тут у верасні 1939 года на беразе канала Бона прыняў бой 83-ы пяхотны полк імя Рамуальда Траўгута.

Рамуальд Траўгут жыў і змагаўся на Кобрыншчыне, адсюль паходзілі яго бабуля, маці і другая жонка, тут жылі яго дочкі.

Да 140-годдзя паўстання 1863-64 гадоў на хутары Божы Дар па рашэнню Кобрынскага райвыканкама з дапамогай мясцовых прадпрыемстваў 21 мая 2003 года быў устаноўлены валун з мемарыяльнай дошкай. Да Божага Дара таксама быў устаноўлены ўказальны знак з вёскі Ляскова. Сімвалічна, што праз 140 год ў Божым Дары 25 мая 2003 года сустрэліся нашчадак Р. Траўгута – палкоўнік Войска Польскага Анджэй Юшкевіч і нашчадак гаспадара Божага Дара ў 1863 годзе Яна Мітрашэўскага – Станіслаў.

Памятны знак у Божым Дары – першы помнік на ўшанаванне памяці ўдзельнікаў нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863-64 гг. На тэрыторыі Беларусі помнік Р. Траўгуту быў устаноўлены ў 1928 г. у мястэчку Свіслач, адноўлены гэты помнік у 1989 годзе.

# Пісьмо з-пад шыбеніцы

*Марыська чарнаброва, галубка мая,*
*Дзе ж падзелася шчасце і ясна доля твая?*
*Усё прайшло, прайшло, як бы не бывала,*
*Адна страшна горыч у грудзях застала.*

*Калі за нашу праўду бог нас стаў караці,*
*Ды ў прадвечнага саду вялеў прападаці,*
*То мы прападзем марна, но праўды не кінем,*
*Хутчэй неба і шчасце, як праўду, абмінем…*

*Бывай здаровы, мужыцкі народзе,*
*Жыві ў шчасці, жыві ў свабодзе,*
*І часам спамяні пра Яську свайго,*
*Што загінуў за праўду для дабра твайго,*

*А калі слова пяройдзе у дзела,*
*Тады за праўду станавіся смела,*
*Бо адно з праўдай у грамадзе згодна*
*Даджэш, народзе, старасці свабодна.*



